


БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД
Аляксей КАЎКА АБ САМАПАЗНАННІ БЕЛАРУСАЎ
Стар. 5.

НОВЫЯ ІМЁНЫ
ЧЫСТЫ ДАР Аляксандра ЧАРКАСА
Стар. 12.



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ
АРГЕНЦІНСКІ ДЗЁННІК Антона КОРШУНА
Стар. 8—9.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

29.04.–6.05.1999 года
Цана 34 000 рублёў

№№ 17—18

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



# А ДЗЕ ТАЯ ХАТКА, ДЗЕ ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ?

## (ДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ)

● **Любоў ТУРБІНА**, *кандыдат біялагічных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук.*

ГАДЫ ДВА таму Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны распаўсюдзіў сярод пісьменнікаў Беларусі анкету, дзе было і такое пытанне: "Ці захавалася хата, у якой вы нарадзіліся?" Прачытала — і выступілі слёзы: што адказаць? Бо ў Ашхабадзе, пасля таго, як мае тата з мамай вярнуліся адтуль у Маскву са мной, неўмаляткам (дарога даўжынёю некалькі тыдняў ледзь не каштавала мне жыцця), здарылася землетрасенне, якое не пакінула ў горадзе каменя на камені. Калі мне пашчасцівілася туды яшчэ раз трапіць (на Дні Махтумкулі ў 1989 годзе), мне здалося, што я паветра ўспомніла: так лёгка было дыхаць! Я прайшлася па тых адрасах, якія напісала мне мама, — вядома ж, усё перабудавана, перапланавана, а аб землетрасенні пагаворвалі, што на самай справе гэта было падземнае выпрабаванне атамнай бомбы.

"Дзяўчынка на шары" Пабло Пікасо — вось, на мой погляд, найбольш адэкватнае адлюстраванне пакалення, якое народжана ў эвакуацыі і не ўбачыла потым не толькі "тую хатку", але і тых мясцін. І для народжаных у Беларусі маіх аднагодкаў, і тых, хто прыйшоў у гэты свет адразу пасля вайны, думаю, пытанне гэтае выклікала не меншыя цяжкасці. Адчуванне "парубежнасці", пагранічнасці, нестабільнасці, уласцівае мне было з таго часу, як я сябе помню, быццам з ім і нарадзілася. Утрымаць раўнавагу на шары — вось наша задача.

Пераезд у Беларусь з Расіі, з Ленінграда (цяпер зноў Пецярбург!) у Мінск — і адсюль прыналежнасць з маленства да дзвюх культур, двух менталітэтаў.

"Фізікі і лірыкі" — лейтматыў юнацтва, вучоба на фізфаку, пастаноўка напісанай фізікамі МДУ камічнай оперы "Архімед", абарона дысертацыі па біялагічнай актыўнасці прамежкавых нейтронаў. У самім прыметніку "прамежкавыя" ёсць тое ж адценне пагранічнасці, парубежнасці, аб якім гутарка ішла вышэй. Цяпер гэта ўспрымаецца як лёс, як "даручэнне", з якім прыходзім мы ў жыццё. Напрыклад, чаму ў падзагалоўку гэтага тэксту, у абазначэнне яго жанру вынесены словы "дарожныя нататкі"? Ды таму, што ў дарозе лепш думаецца, і для мяне гэта найбольш натуральны стан, паколькі я жыву вось ужо амаль дзесяць гадоў паміж Мінскам і Масквой, куды паступова перабраліся ўсе родныя мне людзі (за выключэннем сястры, што жыве цяпер у Мінеапалісе). Вядома, як толькі ёсць магчымасць, еду іх наведаць.

Значна раней мая маленькая дачка, вяртаючыся ў Мінск з Масквы, пыталася: хто больш галоўны — Ленін ці Пушкін? Дома вісеў партрэт Пушкіна ў яе пакоі; на вуліцах, у грамадскіх месцах — Леніна, а дачка, як сапраўдная Дзева па гараскопу, з дзяцінства вызначалася дасціпнасцю, дасканаласцю, і пытанні яе часта ставілі ў тупік. Час паказаў, "хто галоўны" — ужо на працягу года чытаецца кожны дзень па праграме расійскага тэлебачання "Яўгеній Анегін" — кожны радок — другім чалавекам, кожную раніцу — новая страфа. Гэта пакуль уяўляецца мне лепшым, што прыдумана да ўсенароднага адзначаемага юбілею: сам Пушкін, лёгкія і трапныя яго словы. Таму што тыя з канферэнцый, на якіх даводзілася пабываць, часта грашаць шматслоўем. Аднак нічога не зробіш: у кожнага з нас "свой Пушкін". Цяпер, сёння, самымі важнымі здаюцца мне радкі:

И долго буду тем любезен
я народу,
Что чувства добрые я лирой
пробуждал.

Аднак нядобрыя пачуцці запанавалі ў свеце ў юбілейны Пушкінскі год — можа таму, што адзначаецца ён пераважна ў славянскім свеце? Так што перамога пакуль за Леніным: "Весь мир насилья мы разрушим до основанья" — чым не лозунг НАТО, якое абвінавaціла ў насіллі сербаў і з нябачным дагэтуль цынізмам называе масавыя бамбёжкі "міратворчай акцыяй". Аднак, сербы не ідуць пакорліва на смерць.

"Не страшна пад кулямі мёртвымі легчы" — гэтыя радкі загучалі самі сабой у памяці, калі пачула аб жывым ланцужку, які склалі выкладчыкі Бялградскага універсітэта на адным з мастоў, каб зберагчы яго; але мост выратаваць не ўдалося. Зноў Пушкін, "Песні заходніх славян":

(Заканчэнне на 16-й стар.).

ПАДЗЯКА

Праз газету "Голас Радзімы" хачу выказаць шчырую ўдзячнасць органам кіравання розных узроўняў, рэлігійным арганізацыям, нацыянальна-культурным аб'яднанням Рэспублікі Беларусь, а таксама беларускім арганізацыям у замежжы за віншаванне з 50-гадовым юбілеем і ўзнагароджаннем Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Аляксандр БІЛЫК,**
**старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.**



**Беларускі дзіцячы фонд сумесна з іншымі арганізатарамі правёў для таленавітых выхаванцаў дзіцячых дамоў рэспублікі творчы семінар "Юныя таленты". Ён прайшоў на базе санаторыя-прафілакторыя "Світанак" аб'яднання "Медпрэпараты". На семінар сабраліся юныя вакалісты ад 8 да 14 гадоў з дзіцячых дамоў з усёй Беларусі.**

**На здымку: удзельнікі семінара.**

***Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.***

*Тыдзень: Падзеі. Хроніка. Фотафакты.*

МІЖНАРОДНЫ АГЛЯД

## РАСІЯНЕ ЗАЧАСЦІЛІ ДА НАС

Нядаўна Мінск быў сапраўдным цэнтрам прыцягнення расійскіх палітыкаў і дзяржаўных дзеячаў розных узроўняў. Беларускую сталіцу за непрацяглы час наведалі першы віцэ-прэм'ер урада Расіі Вадзім Густаў, новапрызначаны выканаўчы сакратар Садружнасці Незалежных Дзяржаў Юрый Яраў, экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў, губернатар Саратаўскай вобласці Дзмітрый Аяцкаў, міністр абароны Расіі маршал Ігар Сяргееў і іншыя высокапастаўленыя асобы. Зразумела, у кожнага з візіцёраў была свая мэта.

В. Густаў старшынстваваў на чарговым пасяджэнні Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі. Рабочы орган СБР разгледзеў актыўныя праблемы міждзяржаўнага супрацоўніцтва, а па выніках пасяджэння былі падпісаны два новыя пагадненні. Адным з іх урэгулявана найбольш вострая праблема ўзаемаадносін: адзіныя тарыфы на паслугі транспарту, сувязі, газавай прамысловасці і энергетыкі.

Асноўная ўвага ў працы Выканаўчага камітэта Садружнасці Незалежных Дзяржаў у бліжэйшы час будзе нададзена пытанням стварэння ў межах СНД зоны свабоднага гандлю. Аб гэтым у Мінску заявіў выканаўчы сакратар СНД Юрый Яраў. Згодна з даручэннем кіраўнікоў дзяржаў, зона свабоднага гандлю павінна быць створана да 1 студзеня 2000 года.

Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыяй Саратаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве падпісана 15 красавіка ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. Дэлегацыя на чале з губернатарам Саратаўскай вобласці Дзмітрыем Аяцкавым абмеркавала з беларускім кіраўніцтвам перспектывы развіцця супрацоўніцтва.

Экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў прыехаў у Мінск для ўдзелу ў семінары "Расія і Беларусь у новай Еўропе". Але, карыстаючыся магчымасцю, ён правёў шэраг іншых сустрэч. У прыватнасці, М. Гарбачоў быў прыняты Аляксандрам Лукашэнкам і выступіў з прамовай перад студэнтамі і выкладчыкамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У Мінску днямі прайшло сумеснае пасяджэнне калегій Міністэрстваў абароны Беларусі і Расіі. З мэтай удзелу ў гэтым мерапрыемстве ў Беларусі знаходзіўся міністр абароны Расіі Ігар Сяргееў.

## МІНСК АКТЫЎНА ЎКЛЮЧЫЎСЯ ВА ЎРЭГУЛЯВАННЕ КАНФЛІКТУ Ў ЮГАСЛАВІІ

У красавіку Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка і міністр замежных спраў Урал Латыпаў здзейснілі кароткатэрміновы візіт у Бялград. Кіраўнік беларускай дзяржавы правёў перамовы з прэзідэнтам Югаславіі Слабаданам Мілошавічам адносна сітуацыі, звязанай з ваенным канфліктам на Балканах, а таксама магчымасці далучэння Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі.

А. Лукашэнка паведаміў, што Слабадан Мілошавіч афіцыйна перадаў яму просьбу аб далучэнні Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі і данае пытанне будзе вынесена на разгляд чарговага пасяджэння Вышэйшага савета Саюза дзвюх дзяржаў. Было заяўлена таксама, што Югаславія ў прынцыпе згодная на размяшчэнне ў Косаве грамадзянскай назіральнай місіі пад эгідай ААН. Пры гэтым югаслаўскі бок падкрэсліў, што павінна быць выключана прысутнасць у місіі ваеннаслужачых. Адначасна гэтага А. Лукашэнка заўважыў: "Я перакананы ў тым, што прэзідэнт Мілошавіч вызначыў для сябе мяжу, за якую ні ён, ні югаслаўская дзяржава не адступяць у вырашэнні канфлікту ў Косаве". Гэтая мяжа, на думку беларускага Прэзідэнта, заключаецца ў тым, што павінны быць захаваны цэласнасць Югаславіі, роўнасць народаў, якія жывуць на яе тэрыторыі, а таксама ўдзел выключна грамадзянскіх асоб у якасці назіральнікаў.



Спяшаецца гуманітарная дапамога. Фота БелТА.

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ СЛУХАЛАСЯ Ў ФРАНЦЫІ І ЗША

27 красавіка ў Страсбургу падчас пасяджэння Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) прайшлі слуханні па Беларусі. Іх арганізатар — Камітэт па палітычных справах ПАСЕ. Гэта ўжо другія (першыя прайшлі ў чэрвені 1997 года) слуханні па Беларусі. Рашэнне аб іх правядзенні было прынята ў пачатку бягучага года, пасля таго, як намеснік старшыні ПАСЕ, ён жа дакладчык па Беларусі Роберт Антрэтэр (Германія), які наведаў Мінск у канцы 1998 года, прадставіў кіраўніцтву ПАСЕ сваю справаздачу аб сітуацыі ў рэспубліцы.

27 красавіка дакладчыкам па Беларусі выступіў ужо не Роберт Антрэтэр, а Вольфганг Бергенд, які таксама прадстаўляе Германію. Трэба адзначыць, што за перыяд паміж першымі і другімі слуханнямі адбыліся змяненні і ў кіраўніцтве Камітэта па палітычных справах Савета Еўропы — цяпер яго ўзначальвае Віктор Руфі.

На красавіцкія слуханні, як і ў чэрвені 1997 года, запрошаны дзве групы беларускіх парламентарыяў: адна — ад Вярхоўнага Савета 13-га склікання, другая — ад Нацыянальнага сходу.

Адначасова ў канцы красавіка ў Вашынгтоне адбыліся слуханні па пытанні аб сітуацыі ў Беларусі, арганізаваныя Камісіяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Камісія складаецца з членаў сената і палаты прадстаўнікоў ЗША. Кангрэс ЗША запрасіў узяць удзел у слуханнях каардынатара Хартыі-97 па міжнародных сувязях Андрэя Саннікава, кіраўніка кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханса-Георга Віка і пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда. Тэма слуханняў — сітуацыя ў Беларусі з пункту гледжання выканання правоў чалавека і развіцця дэмакратыі.

## АДНЫ ПАРЛАМЕНТАРЫ — У БРУСЕЛЬ, ДРУГІЯ — У БОН

Дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі на чале з Анатолем Малафеевым узяла ўдзел у 101-й канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза (МПС). Яна прайшла ў сярэдзіне красавіка ў Брусэлі. Па словах кіраўніка дэлегацыі, члены палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі ўзялі самы актыўны ўдзел у рабоце форуму.

Між тым, МПС — гэта адзіная міжпарламенцкая арганізацыя, дзе афіцыйна прызнаны статус Нацыянальнага сходу Беларусі. У іншых арганізацыях дагэтуль прызнаюцца паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета XIII склікання. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца запрашэнне наведаць Бундэстаг ад дэпутатаў Германіі, якое на мінулым тыдні атрымалі члены Вярхоўнага Савета. У адказ у Бон накіравалася дэлегацыя прадстаўнікоў ВС на чале з Сямёнам Шарэцкім.

Юрась ДОМНІЧ.

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ А. БІЛЫКА ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 красавіка 1999 года № 510, г. Мінск*

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:**

**За шматгадовую плённую дзейнасць у органах дзяржаўнага кіравання ўзнагародзіць старшыню Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей БІЛЫКА Аляксандра Мікалаевіча Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С. ЛІНГ.**

## БЕЛАРУСЬ — НЕПАЛ: ДРУЖБА Ў 2056 ГОДЗЕ

У Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна сустрэлі новы, 2056 год па непальскаму календару. Ініцыятарамі яго святкавання выступілі таварыства дружбы "Беларусь — Непал" і Асацыяцыя непальскіх прадпрымальнікаў у краінах СНД.

Гэты "бікрам самбат" супаў з некаторымі вехамі ў развіцці нашых адносін з гэтай далёкай экзатычнай краінай. Споўнілася гадавіна заснавання таварыства беларуска-непальскай дружбы. 35 гадоў таму да нас прыехаў на вучобу першы непальскі студэнт. За гэты час беларускія ВНУ скончылі больш як 400 маладых непальцаў. Сёння наша краіна працягвае дапамагаць Непалу ў падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. Зараз у розных ВНУ Беларусі вучацца 150 непальскіх студэнтаў.

Менавіта яны і наладзілі ў бібліятэцы (яе дырэктар Наталля Чуева — член праўлення таварыства дружбы) ці, інакш кажучы, пастараліся максімальна наблізіць святкаванне "бікрама самбата" да непальскіх узораў.

Не абышлося і без прыемных нечаканасцей. Н. Чуевай зрабілі арыгінальны падарунак — спіс усіх замежных сваякоў Пушкіна.

АКТУАЛЬНА

# НАША ВЫРАТАВАННЕ — У НАШЫХ РУКАХ

"Бяспека. Ахова. Выратаванне" — пад такой назвай у Мінску ў Палацы мастацтва прайшла 3-я міжнародная спецыялізаваная выстава. На ёй былі прадстаўлены сродкі аховы аб'ектаў, будынкаў, ахоўна-пажарная сігналізацыя, выратавальнае забеспячэнне, ахоўная вопратка для ратавальнікаў, пажарных, сродкі аўдыя-, відэакантролю. Арганізавалі выставу Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і выставачнае таварыства "Экспафорум".

Актуальнасць выставы вызначаецца асобай роллю, якую адыгрывае ў сучасным свеце праблема аховы чалавека і яго ўласнасці. Па падліках міжнародных экспертаў па сродках бяспекі, на Захадзе людзі выдаткоўваюць каля 20 працэнтаў свайго даходу на забеспячэнне асабістай бяспекі і бяспекі свайго бізнесу. Сродкі аховы жыцця і здароўя чалавека, абароны ўласнасці з'яўляюцца ў свеце такімі ж неабходнымі атрыбутамі быту, як і любая іншая паўсядзённая рэч.

У нашай жа краіне па выніках даследавання рынку сродкаў бяспекі, праведзенага службай маркетынгу "Экспафорум", зусім невялікі працэнт насельніцтва выкарыстоўвае ў сваім жыцці такія сродкі, хоць і адчувае ў іх вялікую патрэбу. Частка людзей не мае такой магчымасці з-за нізкіх даходаў. Але існуе і праблема адсутнасці інфармацыі аб сродках бяспекі. Таму мэта выставы — інфармаванне спажыўцоў аб шырокім спектры сродкаў бяспекі і магчымасцях валодання імі. Начальнік Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы Беларусі Энвер Барыеў сказаў: "У сённяшняй складанай сітуацыі бяспека жыцця чалавека — гэта пытанне дзяржаўнай важнасці, якое патрабуе штодзённай увагі.



Фота Віктара СТАВЕРА.

Прыемна, што ў нашай дзяржаве ёсць людзі, якія працуюць над стварэннем новых сродкаў аховы і забеспячэння бяспекі нашых грамадзян. Выстава павінна спрыяць таму, каб нашыя сумесныя намаганні садзейнічалі ахове грамадзян ад усялякіх відаў небяспекі".

Алена СПАСЮК.





*Тыдзень: Падзеі. Хроніка. Фотафакты.*

МЭБЛЕВЫ САЛОН





# «КАМУ – КРЭСЛЫ, КАНАПЫ, ВЫДАТНЫЯ ШАФЫ?!»

— Я ў захапленні ад "Салона", сапраўднае свята мэблі! — прызнаўся госць з Польшчы Мікалай Раманюк пасля таго, як абышоў выставу "Мінскі мэблевы салон", традыцыйную, пятую па ліку, а сёлета яшчэ і міжнародную, бо ўдзельнічалі ў ёй не толькі майстры мэблі з Беларусі, але і з Польшчы, Украіны, Латвіі, Літвы, Расіі.

Пан Раманюк, родам з Беластока, таксама прадстаўляў на выставе фірму, якая займаецца вытворчасцю мэблевых загатовак.

А што асабліва ўразіла яго, дык гэта мэбля беларускай фірмы "Дзеяч" — набор мяккіх разных крэслаў і ўтульнага выгляду канапы, якія, здавалася, захавалі сваю спрадвечную непаўторнасць яшчэ з "залатых" часоў беларускай шляхты.

Не было адбою ад жадаючых набыць вырабы майстроў мінскай фірмы "Славутасць", чыя сплеценая з лазы мэбля зрабіла самы натуральны фурор на выставе.

Утульна адчуваў сябе ў "Салоне" гродзенскі каваль Юрый Круш. Ён не мэбельшчык. Але тое, што выставіў майстар — выкаваныя з металу ружы — выклікала непрыхаванае захапленне наведвальнікаў, надало выставе запамінальную непаўторнасць.

**А. КІЙРАНЕН.**

*На здымках: у час выставы.*
*Фота Віктара СТАВЕРА.*





26 КРАСАВІКА — ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯР РАДЫЯЦЫЙНЫХ АВАРЫЙ І КАТАСТРОФ




*Унікальную сістэму тэлемедыцынскую, якая дазваляе ўстанавіць відэасувязь з універсітэцкай клінікай японскага горада Сінсіо, паставілі ў Гомельскую абласную бальніцу японскі "Нацыянальны Чарнобыльскі Фонд". З дапамогай двухбаковай відэасувязі праз сатэлітавую антэну ўрачы гематалагічнага аддзялення бальніцы могуць цяпер атрымаць як вусную кансультацыю, так і практычныя парады па правядзенню аперацый.*

*У перспектыве, калі скончыцца поўны мантаж усёй апаратуры, з'явіцца магчымасць перадаваць праз відэасістэму рэнтгенаўскія здымкі, а таксама аналізы з мікраскопа і многае іншае. Пры неабходнасці можна будзе наладзіць сувязь з любой клінікай, дзе ўстаноўлены падобны тэрмінал, і атрымаць адтуль медыцынскую кансультацыю.*

*На здымку: урач-ардынатар Ігар ІСКРОЎ.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

* * *

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу напярэдадні чарговай гадавіны чарнобыльскай катастрофы правяла традыцыйныя слуханні на тэму: "Праблемы ліквідацыі ў Рэспубліцы Беларусь наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС". На слуханнях выступілі кіраўнікі Міністэрстваў па надзвычайных сітуацыях, аховы здароўя, навуковых інстытутаў, райвыканкомаў з забруджаных радыенуклідамі тэрыторый Беларусі.**

* * *

З ініцыятывай стварыць музей гісторыі пераадолення вынікаў выбуху на ЧАЭС выступіла Асацыяцыя праваахоўных органаў "Шчыт Чарнобылю". У "чарнобыльскім" музеі будуць сабраны матэрыялы аб адной з самых драматычных падзей канца XX стагоддзя.

Супрацоўнікі асацыяцыі просяць удзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі, жыхароў раёнаў, што пацярпелі ад радыеактыўнага забруджвання, і іншых грамадзян адгукнуцца і перадаць фатаграфіі, прадметы, успаміны пра тыя падзеі.

Кантактны тэлефон асацыяцыі "Шчыт Чарнобылю": 229-74-05.

**Калектыў рэдакцыі "Голас Радзімы" выказвае спачуванне рэдактару-стылісту газеты Ірыне Казловай у сувязі з заўчаснай смерцю МУЖА.**

САЦЫЯЛОГІЯ

# РАСІЙСКІ КРЫЗІС ПАДАРВАЎ ДАВЕР ДА СУСЕДНЯЙ КРАІНЫ

У канцы мінулага года Прэзідэнты Беларусі і Расіі А. Лукашэнка і Б. Ельцын падпісалі дэкларацыю аб далейшым яднанні народаў дзвюх краін. Гэтая дэкларацыя аб'яўляе намер стварыць адзіную саюзную дзяржаву. У сувязі з гэтым не выключаецца правядзенне ў дзвюх краінах рэферэндумаў па гэтаму пытанню.

Першымі на такую магчымасць адрэагавалі сацыёлагі. Яны паспрабавалі высветліць магчымыя адказы грамадзян Беларусі і Расіі на падобным рэферэндуме. У лютым апытанне ў Расіі правёў Фонд грамадскай думкі (ФГД), а ў сакавіку аналагічнае даследаванне зрабілі супрацоўнікі беларускага Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), падчас якога былі апытаны 1 666 чалавек.

Такім чынам, на пытанне: **"Калі б сёння праходзіў рэферэндум аб аб'яднанні Беларусі і Расіі, вы прагаласавалі б за аб'яднанне ці супраць яго!"** 77 працэнтаў расіян і 42 працэнты беларусаў адказалі "так". Супраць выказаліся 9 працэнтаў з расійскага боку і 40 з беларускага. У Расіі 5 працэнтаў не бралі б удзел у галасаванні і 9 працэнтаў не знайшлі, што адказаць. У Беларусі не пайшлі б на рэферэндум 15 працэнтаў і толькі 3 працэнты рэспандэнтаў не маюць сфарміраванага пункту гледжання.

Відавочна, што ў Расіі за аб'яднанне выказваецца большасць удзельнікаў апытання, а ў Беларусі долі праціўнікаў і прыхільнікаў практычна роўныя. Пры гэтым застаецца вялікі працэнт грамадзян, якія наогул адвяргаюць ідэю рэферэндуму.

Адначасова сацыёлагі цікавіліся стаўленнем рэспандэнтаў да розных формаў інтэграцыі. У выніку аказалася, што доля беларускіх грамадзян, якія выступаюць за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, яшчэ меншая — 24 працэнты рэспандэнтаў. Значна большая частка людзей выказваецца за "добрасуседскія адносіны дзвюх незалежных дзяржаў" — 43 працэнты або за "саюз незалежных дзяржаў" — 31 працэнт.

Сацыёлагаў зацікавіла тое, што апошнім часам дынаміка змянення грамадскай думкі стала вельмі адчувальнай. Яны паспрабавалі высветліць прычыны змянення адносін беларусаў да інтэграцыі. Як аказалася, галоўнай прычынай гэтага стаў леташні расійскі крызіс. На пытанне: **"Што стала прычынай эканамічнага крызісу ў Беларусі ў канцы мінулага года!"** большасць удзельнікаў апытання — 51 працэнт — назвалі эканамічны крызіс у Расіі. 31 працэнт назваў прычынай палітыку беларускіх уладаў, 9 працэнтаў — сусветны крызіс, 4 працэнты — "захады беларускай апазіцыі".

Але самае дзіўнае ў даследаванні НІСЭПД заключаецца ў тым, што на пытанне: **"Калі б вы прагаласавалі за аб'яднанне Беларусі і Расіі, то што вы чакаеце ад гэтага!"** 72 працэнты рэспандэнтаў не змаглі адказаць нічога канкрэтнага. Толькі 10 працэнтаў сказалі, што чакаюць паляпшэння жыцця, 5 працэнтаў — паляпшэння эканомікі, 3 працэнты — павышэння зарплаты.

Сацыёлагі, такім чынам, прыходзяць да высновы, што пад уплывам шэрагу фактараў у беларускім грамадстве адчуваецца ахаладжэнне да ідэі аб'яднання. Каб яшчэ раз праверыць гэта, рэспандэнтам задавалася іншае пытанне. Яно было пастаўлена так, каб высветліць не асабістыя адносіны грамадзян, а іх арыентацыю на прынятую ў грамадстве агульную пазіцыю. **"Як вы лічыце, ці жадае большасць беларускіх грамадзян аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву!"** — так было пастаўлена пытанне. Аказалася, што ў сакавіку толькі 27 працэнтаў рэспандэнтаў думалі, што беларусы жадаюць аб'яднання. У верасні 1998 года так адказалі 37 працэнтаў апытаных. На падставе гэтага навукоўцы прыходзяць да высновы, што змяншаецца і колькасць тых, хто лічыць, што аб'яднання хоча большасць беларусаў.

**Ян ЛАХВІЧ.**

ПАЛІТЫКА



# ШМАТПАРТЫЙНАСЦЬ: ЦЯЖКАСЦІ СТАНАЎЛЕННЯ

*Неўзабаве споўніцца 10 гадоў, як у Беларусі была пахіснута аднапартыйная сістэма і пачалі ствараца першыя альтэрнатыўныя камуністычнай палітычныя арганізацыі, у тым ліку і дэмакратычнага напрамку.*

*На сённяшні дзень у Міністэрстве юстыцыі зарэгістравана 27 палітычных партый. Але гэта зусім не азначае, што ў краіне сфарміравалася цэласная, дзейсная і ўплывовая шматпартыйная сістэма.*

Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

ПЕРШ ЗА ЎСЁ так сцвярджаць вымушаюць даныя аб колькасці мясцовых партыйных суполак і аб агульнай колькасці членаў палітычных арганізацый. На сённяшні дзень найбольш разгалінаваную структуру маюць толькі сем партый: БНФ, ПКБ, АП, БСДП (НГ), ЛДП, АГП і КПБ. Гэтыя арганізацыі самыя масавыя: шэрагі кожнай налічваюць ад 3 да 20 тысяч чалавек. Усе яны вядуць актыўную грамадска-палітычную дзейнасць, некаторыя рэгулярна выдаюць свае газеты і бюлетэні. Іх лідэры і актывісты — вядомыя ў грамадстве палітыкі. Гэтыя арганізацыі маюць больш-менш высокі рэйтынг сярод насельніцтва краіны.

А што ж астатнія дваццаць? Сярод іх ёсць арганізацыі, якія не зарэгістравалі свае структуры ні ў адным рэгіёне Беларусі. Гэта рэспубліканская, сацыялістычная, нацыянальна-дэмакратычная партыі, партыя "Хрысціянска-дэмакратычны выбар". А адзінаццаць арганізацый стаяць на ўліку толькі ў адным-трох рэгіёнах дзяржавы. Такім чынам, калі ў гэтых партыях нават абласныя арганізацыі не маюць статуса юрыдычнай асобы, гэта азначае, што ў іх не вядзецца ніякая фінансавая дзейнасць. Каля дзесяці партый налічваюць у сваіх шэрагах менш 1 000 членаў. І менавіта гэтым арганізацыям будзе складана пераадолець перарэгістрацыю, якая зараз аб'яўлена ў Беларусі, бо адна з умоў гэтай акцыі заключаецца ў тым, каб колькасць сяброў партыі была не меншай за тысячу чалавек.

Чаму ж грамадзяне Беларусі ігнаруюць законнае права на аб'яднанне ў палітычныя арганізацыі? На гэтае пытанне можна было б адказаць проста і коратка: партыі не змаглі заваяваць аўтарытэт сярод шырокіх слаёў насельніцтва і даказаць, што могуць рэальна змагацца за ўладу і адстойваць правы пэўных сацыяльных колаў грамадства. Аднак сутнасць праблем, звязаных з пабудовай шматпартыйнасці ў Беларусі, на самай справе больш глыбокая і складаная.

Па-першае, больш чым 70-гадовае панаванне камуністычнай ідэалогіі ў асобе КПСС у многіх нашых суайчыннікаў наогул адбіла ахвоту мець нейкія зносіны з палітычнымі партыямі. Па-другое, моцныя сацыяльна-эканамічныя ўзрушэнні змянілі не толькі існаванне пэўных сацыяльных груп, але і асобных грамадзян. Палітолагі выказваюць думку, што наша грамадства да гэтага часу не можа аправіцца ад гэтых узрушэнняў і выйсці з аморфнага стану. А партыі якраз узнікаюць у той час, калі адбываецца фарміраванне сацыяльных груп насельніцтва і вызначаюцца канкрэтныя не толькі эканамічныя, але і палітычныя мэты, дасягнуць якіх немагчыма толькі нефармальным шляхам. У нас жа пакуль нельга казаць пра аформленую і разгалінаваную структуру інтарэсаў розных грамадскіх сіл. Зараз кожны імкнецца выратавацца самастойна.

Вяртаючыся да гісторыі кампартыі, асабліва апошніх гадоў яе існавання, неабходна адзначыць, што яшчэ адну негатыўную рысу яна выхавала ў грамадстве. Яна заключаецца ў тым, што партыю людзі прывыклі ўспрымаць у значнай меры з карыслівага пункту гледжання. Перад чалавекам, у якога сёння з'яўляецца магчымасць уступіць у тую ці іншую палітычную арганізацыю Беларусі, часта ўзнікае "заканамернае" пытанне: а што мне асабіста гэта дасць? І са свайго пункту гледжання, ён мае рацыю: калі чалавек рэгулярна плаціць членскія ўзносы сваёй арганізацыі, то ён павінен разлічваць на нейкую дапамогу з яе боку.

ТАК, МЕНАВІТА звычкі і традыцыі савецкіх часоў, якія з настальгіяй успамінаюцца вялікай часткай народа, прымушаюць глядзець на любую цяперашнюю партыю, як некалі на камуністычную, удзел у якой гарантаваў гонар і пашану ў грамадстве, быў неабходнай умовай беспярашкоднага прасоўвання па службовай лесвіцы, даваў многія іншыя буйныя і дробныя даброты. Відавочна, гэта было магчыма ва ўмовах зрашчэння партыі з дзяржаўным апаратам.

Сёння, зразумела, такога няма. Часы былых партыйных "кармушак" прайшлі, і грамадзяне свядома ці падсвядома разумеюць, што сучасныя партыі нічога падобнага ім не дадуць. Змяненні ў структуры палітычнай сістэмы абярнуліся тым, што значная катэгорыя грамадзян ужо не разглядае партыю як сродак паляпшэння свайго грамадска-сацыяльнага ці матэрыяльнага становішча. Для гэтага знаходзяцца іншыя трампліны, якія дапамагаюць трапіць у "партыю ўлады".

Такім чынам, каб зацікавіць чалавека, палітычная партыя павінна зараз не толькі мець высокія і адначасова спакуслівыя мэты і задачы, праграму і статут, яна павінна выклікаць давер і быць рэальна дзеючай. Гэтага магчыма дасягнуць толькі пры добрым фінансавым забеспячэнні. На жаль, дастатковай заможнасцю не можа пахваліцца ніводная палітычная арганізацыя краіны, хіба толькі за выключэннем Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Беднасць стала адной з прычын сумнага становішча абсалютнай большасці айчынных партыйных арганізацый. Многія не ў стане нават раздрукаваць некалькі соцень брашур са сваімі статутам і праграмай, яны не маюць абсталяваных офісаў, а іншы раз нават не валодаюць кантактным тэлефонам. Зразумела, такое становішча не можа садзейнічаць пабудове станоўчага іміджу той ці іншай партыі. Цяжка разважаць у такім разе пра нейкі інтарэс да іх з боку грамадства і прыток новых людзей. Я ўжо не кажу пра выпуск уласных газет ці бюлетэняў, ад чаго непасрэдна залежыць папулярызацыя партыі і ажыццяўляецца інфармаванне грамадскасці пра яе дзейнасць. На сённяшні дзень толькі абедзве камуністычныя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада) і Партыя здаровага сэнсу выдаюць свае газеты.

Але ўсё мае свае падставы, у тым ліку і беднасць. Закон "Аб палітычных партыях" вызначае пяць крыніц паступлення сродкаў: а) уступныя і членскія ўзносы; б) даходы ад маёмасці, выдавецкай дзейнасці, распаўсюджвання друкаваных выданняў і публікацый, выкарыстоўвання іншых СМІ; в) паступленні ад правядзення культурна-масавых, дабрачынных і іншых мерапрыемстваў; г) ахвяраванні і падарункі; д) іншыя паступленні, не забароненыя заканадаўствам. Дарэчы, у адрозненне ад некаторых еўрапейскіх краін, дзе партыі часткова фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, у Беларусі заканадаўча забаронена іх фінансаванне дзяржавай.

Зразумела, у надзвычай складаным сацыяльна-эканамічным становішчы, у якім дзесяцігоддзе дрэйфуе беларускае грамадства, немагчыма разлічваць на членскія ўзносы. Пра даходы ад маёмасці таксама нельга гаварыць, бо многія арганізацыі проста не маюць уласнай маёмасці, а для выдавецкай дзейнасці і правядзення рознага кшталту мерапрыемстваў патрэбны пачатковы капітал, які таксама звычайна адсутнічае. Найбольш рэальнай крыніцай фінансавых паступленняў, такім чынам, з'яўляюцца ахвяраванні. За мяжой, у былых савецкіх рэспубліках, прынамсі, гэта самая галоўная крыніца даходаў.

Але трэба заўважыць, што ў айчынным заканадаўстве існуюць значныя абмежаванні ў гэтай галіне. Напрыклад, забаронены ахвяраванні з боку дзяржаўных прадпрыемстваў ці арганізацый і з боку замежных ці міжнародных структур. Гэта азначае, што партыі могуць разлічваць толькі на беларускі прыватны бізнес. Маштабы такой дапамогі чытач сам можа ўявіць, арыентуючыся на сітуацыю ў развіцці прыватнага сектара эканомікі.

Праўда, трэба асобна закрануць палітычны бок узаемаадносін прадпрымальнікаў з партыйнымі арганізацыямі, паколькі практыка іх, нягледзячы на неспрыяльны клімат, усё ж існуе. Успомнім, напрыклад, пярэдадзень прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Менавіта тады была створана значная частка партый, а іх актыўнасць, мабыць, аказалася максімальнай за ўвесь час існавання. На друкаванне лістовак, правядзенне агітацыйных мерапрыемстваў і іншую падтрымку кандыдатаў былі патрачаны немалыя сумы. У той час прадпрымальніцкія структуры цесна супрацоўнічалі з палітычнымі арганізацыяii. Яны давалі грошы пад канкрэтных людзей, якія вылучаліся кандыдатамі і пры ўмове перамогі маглі лабіраваць інтарэсы як сваёй партыі, так і прадпрымальніцкіх колаў.

ТАКІМ ЧЫНАМ, у Беларусі выкарыстоўвалася практыка, якая існуе ва ўсім свеце. Але адрозненне айчыннай сітуацыі ў тым, што бізнесмены забыліся на партыі адразу пасля выбараў. Ды і, відаць, няхутка ўспомняць, бо ў бліжэйшай перспектыве ніякіх выбарных кампаній не прадугледжваецца, а ў выбарах у мясцовыя саветы рэальна ўдзельнічалі толькі тры партыі. Астатнія або байкатавалі выбары, або не змаглі выставіць сваіх кандыдатаў з-за адсутнасці мясцовых суполак.

Да таго ж ва ўмовах падзеленасці палітычнай структуры грамадства па прынцыпу лаяльнасці і апазіцыйнасці да дзеючых уладаў фінансавая падтрымка прадпрымальнікамі, напрыклад, апазіцыйных арганізацый звязана з пэўнай рызыкай. Яна можа абярнуцца рознага кшталту негатыўнымі наступствамі з боку органаў дзяржавы...

Але нават у такіх умовах магчымым было б супрацоўніцтва бізнесу і партыйных арганізацый. Не проста магчымым, а нават заканамерным. Грошы заўсёды выдзяляліся пад канкрэтныя праграмы ці канкрэтных людзей. Але, на жаль, палітычныя партыі Беларусі характарызуюцца адсутнасцю папулярных, харызматычных лідэраў, якія маглі б эфектыўна кіраваць арганізацыяй, аб'ядноўваць вакол сябе аднадумцаў, ставіць дакладныя мэты і дабівацца іх.

Дарэчы, гэты недахоп спараджае новыя праблемы, якія адбіваюцца на ўсёй сістэме шматпартыйнасці. На фоне адсутнасці па-сапраўднаму моцных асоб нярэдка вядуцца працяглыя спрэчкі за лідэрства ў партыях паміж людзьмі, якія не валодаюць якасцямі лідэра, хаця па прычыне завышанай самаацэнкі прэтэндуюць на першыя ролі. У выніку на падставе гэтага адбываюцца частыя расколы і ў без таго нешматлікіх і неўплывовых арганізацыях. З адной партыі ўтвараецца дзве ці нават тры. І такая дрэнная тэндэнцыя пакуль пераважае. На сённяшні дзень наогул склалася сітуацыя, калі з трыццаці юрыдычна дзеючых партый многія маюць не толькі блізкія праграмныя мэты, але нават падобныя назвы. У Мінюсце зарэгістравана тры партыі сацыял-дэмакратычнага накірунку і адна сацыялістычная, па дзве камуністычныя, рэспубліканскія, нацыянал-дэмакратычныя, экалагічныя і хрысціянска-дэмакратычныя.

НАІЎНА было б чакаць, што дзяржава, органы ўлады стануць усебакова падрымліваць палітычныя партыі і максімальна спрыяць іх развіццю і росту аўтарытэту ў грамадстве. Бо любая партыя ў рэшце рэшт сама ставіць мэту прыйсці да ўлады. Мабыць, таму сёння існуе шмат прыкладаў, калі ўлады маўкліва назіраюць за сітуацыяй або наогул дзейнічаюць у адваротным напрамку. Такім чынам, выратаванне тапельцаў, як кажуць, справа рук саміх тапельцаў. Аднак складваецца ўражанне, што партыйныя функцыянеры цалкам згодныя з сённяшнім палажэннем і не зацікаўлены ў станаўленні ў Беларусі ўплывовай і паўнацэннай сістэмы шматпартыйнасці. Усе спробы стварыць у краіне нейкую пастаянна дзеючую кансультатыўную міжпартыйную структуру заўсёды правальваліся: перамагалі дробныя асабістыя крыўды.

**СПІС ЗАРЭГІСТРАВАНЫХ У БЕЛАРУСІ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ**

**1. Беларуская народная партыя.**
**2. Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя.**
**3. Партыя Беларускага народнага фронту.**
**4. Партыя здаровага сэнсу.**
**5. Партыя камуністаў Беларуская.**
**6. Аграрная партыя.**
**7. Беларуская партыя "Зялёны мір".**
**8. Беларуская сялянская партыя.**
**9. Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада).**
**10. Ліберальна-дэмакратычная партыя.**
**11. Беларуская партыя жанчын "Надзея".**
**12. Славянскі сабор Белая Русь.**
**13. Рэспубліканская партыя.**
**14. Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці.**
**15. Беларуская партыя працы.**
**16. Беларуская сацыялістычная партыя.**
**17. Партыя "Хрысціянска-дэмакратычны выбар".**
**18. Беларуская нацыянальная партыя.**
**19. Беларуская рэспубліканская партыя.**
**20. Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць.**
**21. Нацыянальна-дэмакратычная партыя беларусаў.**
**22. Аб'яднаная грамадзянская партыя.**
**23. Камуністычная партыя Беларусі.**
**24. Беларуская патрыятычная партыя.**
**25. Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды.**
**26. Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада.**
**27. Беларуская экалагічная партыя зялёных.**



БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

**Нядаўна ў Мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кніг Аляксея КАЎКІ "Жывом!". (1997) і "Будам жыць!" (1998), выдадзеных у памежным Смаленску. Яна была наладжана навучальнай грамадскай установай "Беларускі калегіум". У аснову матэрыялу, які прапаноўваецца вашай увазе, пакладзена выступленне Аляксея КАЎКІ на гэтай сустрэчы.**

# СКАРЫНА – КУПАЛА – УЛАШЧЫК

## *(Праблема беларускага самапазнання)*

**Аляксей КАЎКА.**

"Жывом!", "Будам жыць!" — гэта дзве часткі аднае тэматычна цэласнае кнігі, прысвечанай праблеме беларускага самапазнання. Прычым пазнаваць саміх сябе — не абавязкова да слёз зажурвацца над пралікамі і хібамі мінулых часоў, над тым, што страцілі і чаго не здолелі апанаваць. І ўжо зусім жалю вартым выглядае прыпадабненне аслу з байкі Кандрата Крапівы, які кідаецца ў злосць і роспач ад уяўнае карыкатурнасці свайго аблічча.

Наш прынцып самапазнання — у вывучэнні нацыянальнае творчасці, увасобленай у канкрэтных постацях, кнігах, ідэях. Меў рацыю Ігнат Абдзіраловіч (І. Канчэўскі), які ў сваёй працы "Адвечным шляхам" залучаў творчасць да грунтавых перадумоў і гарантый нашага нацыянальнага самараскрыцця і самазахавання ў сусветнай сябрыне народаў як пэўнае этнакультурнае супольнасці з выразным абліччам. Творчасць — сапраўды, наша візітка, наш беларускі *пашпарт на права заняць*, кажучы словамі Янкі Купалы, "свой пасад між народамі". І адначасова, калі не найперш, — нашыя абарончыя скрыжалі, наша духоўная цвярдыня на адвечным геацывілізаваным скрыжаванні-"скразняку" Усход — Захад, на якім стагоддзямі выпрацоўваецца беларуская тоеснасць, беларуская трывучасць, беларуская гісторыка-культурная працаздольнасць.

На гэтым менавіта змагарным бальшаку нашае самаабарончае пчалінае працы і хацелася б засяродзіцца на трох вяршалінных постацях. Што ж іх родніць, яднае — такіх непадобных сабой, і творчым профілем, і канкрэтным храналагічным часам свайго дзеяння? Адказ знаходзім у словах нашага асветніка-першаадраджэнца, вызначальных як для самога Скарыны, так і для наступнікаў распачатае ім асветніцкае традыцыі: "Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають". Зазначым, закон ласкі, інакш — паслядоўна ахвярнае слугаванне Госпаду, маці-радзіме, яе грамадска-духовае дасканаласці, або, па-сучаснаму, яе нацыянальнай ідэі.

Наш вялікі Палачанін арыентуецца на даўнейшую асветніцкую традыцыю. Яе вытокі пачынаюцца ад хрысціянскіх апосталаў, у нашым славянскім арэале — ад першавучыцеляў Кірылы і Мяфоды, кіеўскага мітрапаліта Іларыёна, у Беларусі — ад Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, іншых пашыральнікаў хрысціянства. Традыцыя гэтая жывіцца сакральна-эсхаталагічнай ідэяй святла, увасобленай у богачалавечым абліччы Ісуса Хрыста: "Я ёсць святло свету: хто пойдзе за мною, той не будзе блукаць у цемры, але мецімe святло жыцця" (Іан, 8:12). Спадкаемцам і прадаўжальнікам вось гэтае боска-прасветнае традыцыі на беларускім абшары і выступіў Францішак Скарына, адарыўшы суродзічаў на даступнай ім мове Бібліяй — Кнігай кніг усечалавечае культуры.

Хаця, зразумела, Скарына — не багаслоў. Ён вучоны, доктар мастацтваў і медыцыны, лекар-практык, словам, чалавек свецкі. Але ў яго падыходзе да тлумачэння Святога пісьма і праявілася яскрава-цэльная натура асветніка: шчырая наканаванасць хрысціяніна і інтэлект вучонага. Інакш кажучы, спалучэнне Храма і Універсітэта.

Творчасць Скарыны ўвасабляе сабой цэласны, гарманічны тып культуры, у які рэлігія ўваходзіць не проста састаўной часткаю, але яе вызначальным культам. І ў гэтым богатворчым сэнсе яго асветніцкая ідэя вельмі далёкая ад чалавечае гардыні і абсалютызацыі двуногага homo sapiens, чым звычайна грашыў еўрапейскі гуманізм, зводзячы чалавека да "меры ўсіх рэчаў".

Істотным у Скарынавым асветніцтве з'яўляецца пытанне яго канфесійнасці. Асветніка з Полацка ў пэўным сэнсе можна лічыць вызнаўцам ідэі адзінае царквы, "мати всех" вернікаў-хрысціянаў, своеасаблівым прадцечай экуменічнае думкі на Беларусі. Не выпадкова П. Уладзіміраў, аўтар першае фундаментальнае працы пра Скарыну, бачыў у ім, хаця не без пачуцця засцярожлівасці, "хутчэй уніята-беларуса". Іншая справа, што уніяцтва на радзіме асветніка так і не стала тым, чым магло, імкнулася стаць: нацыянальна-рэлігійным сінтэзам беларускага народа. Не стала, як слушна ў свой час заўважыў В. Ластоўскі, з прычыны глыбокай раз'яднанасці, дасюль не пераадоленай, трох асноватворных чыннікаў у беларускай гісторыі: рэлігіі, дзяржавы, культуры. Праз задоўжанае панаванне ў краіне, дадайма ад сябе, чужаземных, найчасцей культурова-духовых узораў і структур ды спароджанага імі падкаланіяльнага стану, з якога на працягу стагоддзяў ніяк не магла выкарабкацца радзіма Скарыны. Вельмі актуальна гучыць для нас лапідарны радок ягонае "Біблії": "Припусти к собе чужеземца и приведет тебя в бури и отведет от власных путей твоих". (Пр. Саламонавы).

Усё разам узятае лучыцца з пытаннем Скарынавага нацыянальнага светапогляду. У Скарыны ідэя "вялікае ласкі" да Бацькаўшчыны наскрозь прасякнута універсальнымі каштоўнасцямі і пераканаўча даводзіць, як паспяхова можна словам і справай слугаваць "народу ў чалавецтве і чалавецтву ў народзе" (У. Салаўёў). Памятаючы пры гэтым, што чалавецтва заўсёды пачынаецца з канкрэтнага чалавека, засяроджанага ў канкрэтным народзе. Адсюль і так званыя агульначалавечыя вартасці — ніякія не абстракцыі, бо яны прарастаюць і здзяйсняюцца на пэўнай нацыянальнай глебе, "подлуг обычаев землі, часу і места".

Такім чынам, уласны шлях беларусаў, іх нацыянальны ідэал зусім не азначаюць ні адгароджвання ад вонкавага свету, ні правінцыйнае засцянковасці, у чым схільныя падазраваць і дакараць нашых адраджэнцаў не толькі зацятыя партінтэрнацыяналісты, рэстаўратары былога самаразбуранага "общего дома", але той-сёй і з сучасных дэмакратаў-праваабаронцаў, ахвочых узводзіць новы прававы лад на Беларусі пад сцягам прывідных "общечеловеческих ценностей" пры адвочнай абыякавасці да інтарэсаў, вартасцяў карэнна беларускіх, тым болей, калі тыя інтарэсы і вартасці асуджаны на глум і падаўленне.

Янка Купала, другая буйная асветніцкая постаць, быў і, мяркую, застаецца першым, недасягальным песняром-выспаведнікам беларускае трывучасці і няскоранасці:

І кожны, хто мяне спытае, —
Пачуе толькі адзін крык:
Хоць мною кожны
пагарджае,
Я буду жыць, бо я мужык!

Літаратуразнаўцы, здаецца, дасюль не патрапілі па-належнаму ацаніць, заглыбіцца ў тэкст і кантэкст Купалавага "Мужыка", зводзячы празорліва-выбуховае Слова, па сутнасці нацыянальна-паэтычны маніфест аўтара, да звычайнага сацыяльнага пратэсту, да спрошчаных сялянскіх перапеваў "пад Багушэвіча" кшталту "Дурны мужык, як варона"...

Пагарджанне "мужыком" або нашай нацыянальнай тоеснасцю зыходзіла не толькі ад запанелых адукаванцаў. Закамплексаваны адвечнымі кпінамі жыхар "дзярэўні", апынуўшыся ў горадзе, папаўняў і нярэдка дасюль папаўняе шэрагі тых самых пагарджанцаў. Не даросшы, не набыўшы сапраўднае агульначалавечае культуры, ён з пагардай ставіцца і да свае, заяўляючы, напрыклад, што на беларускай мове нельга выказаць нічога вартага і значнага. Трагікамічны бок гэтае акалічнасці згадвае ў сваіх пакуль што не надрукаваных успамінах Мікола Улашчык — трэцяя жывая старонка нашага Будамжыцця. Расказвае ён пра даволі папулярную сярод сваіх землякоў-вяскоўцаў показку пра адну нечакана запанелую праз замуства ў Мінску маладзіцу-мужычку, якая аднойчы на базары сустрэла свайго брата, што прадаваў парасят. Акультураная "пані" не стрымала здзіўлення:

— І адкудава ў цібя, Гаўруша, эці зьвяркі?

— Ах ты ... гэта ж парасяты, якіх ты сама нядаўна карміла! — адрэагаваў Гаўрыла не зусім па-рыцарску, але адэкватна.

Частка вясковай моладзі, разважае вучоны над праблемай, прысвечанай згаданаму вершу Купалы, падаючыся ў горад, здабываючы службовыя пасады, імкнулася як мага хутчэй зрачыся сваіх "мужычых", чытай, беларускіх, адзнакаў. Але знайшліся і такія, хто пайшоў проці плыні, не спакусіўся роляю "паўпанка", хто ўбачыў у мужыку, а значыць і ў беларусу, чалавека не горшага ад іншых. Рэвалюцыйны ўздым пачатку XX стагоддзя спрыяў хуткаму росту такой нацыянальна заангажаванай моладзі. Ад кожнага падобны "прамужыцкі", дакладней, беларускі выбар, патрабаваў, апроч іншага, немалое грамадзянскае мужнасці: даводзілася нярэдка зносіць кпіны, знявагу, злосць атачэння, нават сямейныя сваркі. Успомнім, дзеля прыкладу, маральныя пакуты Лявона Задумы з апавядання Максіма Гарэцкага, балючы канфлікт паміж Андрэем Будзіловічам і бацькамі ў нядаўна апублікаванай драме Аркадзя Смоліча "Няхай прыдзе згода" і г. д. Таму вернемся да Улашчыкавае высновы: зробленага выбару паслядоўна трымацца "мог толькі моцны духам, той, хто адчуваў свой абавязак перад сваім народам. Купала быў першым, хто не толькі з усёй сілаю сказаў, што ён за "мужыка", але і сам назваў сябе мужыком і сказаў гэта на мужыцкай мове. Купала пайшоў на тое, што багатыя і культурныя ганьбілі. Так мог зрабіць чалавек вялікай сілы і вялікага таленту. Купала не толькі геніяльны паэт, але і герой".

Улашчыкавы заўвагі лішні раз нагадалі нам аб праблеме зачытанага, але як след не прачытанага, не расчытанага намі Купалы — вестуна і творцы сучаснае беларускае самасвядомасці. Архітэктара і будаўніка новае, маладое Беларусі:

Падымайся з нізін,
сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў,
над нягодамі;
Занімай, Беларусь
маладая мая,
Свой пачэсны пасад
між народамі!..

Такія вось грамадска-духовыя азарэнні і вобразныя пераўтварэнні панылае рэчаіснасці здольны выкрасаць і ўздымаць з патаемных глыбіняў той самы Скарынавы закон ласкі да Бацькаўшчыны. Хаця па сваёй сэнсавай скіраванасці, экспрэсіўнай моцы гэта ўжо іншая, не так філасофска-медытатыўная, як востра-публіцыстычная, змагарная іпастась патрыятычнае самаахвярнасці. І адначасова — трапяткі, неспасціжны ўзор беларускае палымянае красы, харашства, менавіта таго самага эстэтычнага ўзвышэнства ў паэзіі, якое праз некалькі гадоў пазней у якасці праграмнага сцвердзяць заснавальнікі літаратурна-грамадскага згуртавання "Узвышша".

Мушу запыніцца на балючай, пакутлівай праблеме "развітання" Паэта з нашым дарагім, адвечным, непаўторным... "Як сон маркотны і жаданы" — менавіта гэтым, тужліва-парадаксальным радком (паводле аўтографа) пачынаюцца строфы верша "Сыходзіш, вёска, з яснай явы..."

Пераходзячы ад шматзначнае Купалавае сімволікі да канкрэтных гістарычных падзей і фактаў, варта затрымацца над пэўнымі рэаліямі драматычнага зыходу беларускае вёскі, гвалтоўнае разбурэнне якой абярнулася для многіх пакаленняў непапраўнымі матэрыяльнымі стратамі ды амаль не вылечным нацыянальна-духовым калецтвам. Пра тое, ЯКАЯ і ЯК сыходзіла ў небыццё Беларуская атлантыда, — даведваемся з сведчанняў гісторыка-храніста Міколы Улашчыка, з надрукаванай у трэцім выпуску "Скарыніча" "Навальніцы". Там не толькі пра нашае паміранне, але, мо яшчэ болей, пра супраціўляльную трывучасць, пра чалавечае жыццялюбства насуперак нечалавечым абставінам.

Не менш яскравы і павучальны ўрок, высокі ўзор крыжовага выпрабавання і выжывання дзеля ТВОРЧАСЦІ дае нам асабісты жыццёвы досвед аўтара вышэйзгаданае "Хронікі" і дзівоснае кніжачкі "Была такая вёска". Кніжачкі, якая ўзнаўляе, уваскрашае страчаны вобраз нашага нармальнага, на спаконвечным падкладзе працавітасці і духовае цвярозасці развіцця. Кніжачкі, якая, на добры лад, магла б "пасяліцца" ці не ў кожнай беларускай кватэры (гарадской, пасялковай, паколькі пра вёску гаварыць і мроіць сёння справа дужа праблематычная...), цеплячы золкую, няўтульную атмасферу штодзённага бытавання. Як-ніяк, але ж мы з хат, усе, прынамсі генетычна, з бацькоўскіх вёсак.







Са старонак кнігі "Будам жыць!" Мікола Улашчык сведчыць сам за сябе. Перад мною два "параўнальныя" фотаздымкі гэтай незвычайнай Постаці (выпускніка БДУ 1929 года і вязня турмы МУС у Ленінградзе ў 1941 годзе). Па іх можна "прачытаць" пра тыя трагічныя разломы-расколіны, якія адолеў гэты прыгожы, магутны Беларусін, каб дзеля Бацькаўшчыны зрабіць тое, што ён зрабіў. Адольваючы свой цярністы шлях з незгасальнай Скарынавай ласкай і Купалавым запаветным "Ад прадзедаў спакон вякоў..."

РАЗВАГІ над нашымі трыма сцяганоснымі носьбітамі-творцамі неўнікнёна ўзварушваюць пытанне пра адметнасць, спецыфіку патрыятызму — стрыжнёвай лініі нацыянальнага самапазнання. Хаця ў сваім далікатным і ўпартым замілаванні да любае "маці-краіны" (М. Багдановіч), да чароўнага "роднага кута" (Я. Колас) беларусы не дужа і розняцца ад іншых народаў і нацыяў, загартаваных у шматвяковым змаганні за сваё гістарычнае самасцвярджэнне. Прынамсі, ад братоў-украінцаў, чый пакутліва-пераможны нораў іхні асілак духу Іван Франко ў свой час акрэсліў вельмі востра і, мабыць, дакладна: "Мой украінскі патрыятызм — гэта не сантымент, не нацыянальны гонар, гэта цяжкае ярмо, здавён ускладзенае на мае плечы. Я магу спатыкацца, магу моўчкі праклінаць долю за непамерны цяжар, але скінуць яго не магу". Сугучны беларускаму лёсу і гістарычны вопыт больш ад нас аддаленага, калькасна не вельмі вялікага, але магутнага сваім жыццесцвярджальным норавам яшчэ аднаго народа. Вось як пра гэта сказаў паэт і філосаф канца XIX — пачатку XX стагоддзяў Амар Бенгуа: "Бог стварыў абхаза, каб пастаянна выпрабоўваць яго; ды блаславіць Ён нас — мы крочым пад яго выпрабаваннем".

Словам, і нашае, беларусаў, "ярмо" — пякельна цяжкае і... лёгкае. Будам несці яго і далей — з верай у Боскае і сваё наканаванне.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



# ЯНА і ЁН У СУЧАСНЫМ ІНТЭР'ЕРЫ

● Маргарыта СТАРЫХ.

...Ён сціпла стаяў убаку і трымаў у руках пушыстую арэнбургскую хустку. Трымаў амаль на выцягнутых руках — беражліва, бязважка, быццам жывую, незвычайную істоту. А Яна ў гэты час піла шампанскае, нешта адказвала на пытанні тэлерэпарцёраў аб выставе, разам з іншымі прымала віншаванні...

Калі мы пазнаёміліся бліжэй, я не адважылася задаць пытанне, якое мяне цікавіла: хто галоўны ў іхняй сям'і? Бо Ён з нейкага часу трапіў у разрад беспрацоўных, і Яна стала галоўным здабытчыкам для сям'і. Але пытанне вяршэнства, вырашанае некалі ў першыя гады іх сямейнага жыцця на карысць раўнапраўя, — непарушны прынцып і да сённяшняга дня. Можа, таму і "ўцягнула" Яго ў "сваю веру", заразіла творчасцю.

Наталля і Юрый Мацвеевы — даволі тыповая гарадская сям'я, якая яшчэ не так даўно лічылася забяспечанай. Абое шмат гадоў прарабілі інжынерамі, маюць у Мінску двухпакаёвую кватэру, у іх двое дзяцей — дачка Поля і сын Кірыл. Без пабочнай дапамогі будавалі сваё жыццё, сям'ю, прайшлі ўсе этапы — безграшоўе, бытавыя нягоды, хваляванні за дзяцей, прыцірку адно да аднаго і сваякоў... Адным словам, усё, як у людзей.

**Наталля:** — Працавалі і марылі аб прыбаўцы 10 рублёў да зарплаты. А за вынаходства 20 рублёў плацілі — я была аўтарам устаноўкі па траўленню стужкі...

**Юрый:** — Я ніколі не цураюся ніякай работы, і хатняй у тым ліку. Бывала, хтосьці з сяброў застаў мяне, калі я дамываў падлогу ці бялізну прасаваў, — здзіўляліся, мякка намякаючы: маўляў, нягожа мужыку да такога "апускацца". А хіба лепш было б, калі б Наташа ўсе выхадныя за прыбіраннем і прасаваннем праводзіла?.. А так мы ўсёй сям'ёй у паход — нават Кірушку пачалі з сабою браць ужо з двухгадовага ўзросту.

Наташа і Юра пазнаёміліся некалі ў адным з такіх паходаў выхаднога дня, якія рэгулярна наладжвала іх роднае прадпрыемства — хвала яму за гэта і пашана, бо лепшых акалічнасцей для знаёмства, каб прыглядзецца адно да аднаго, не прыдумаеш.

Так, Ён знайшоў Яе — надзвычайную, ідэальную, і нават маці сваю, Ганну Васільеўну, змог у гэтым пераканаць, і яна не расчаравалася ў сваёй нявестцы. Ну а ён тым больш, асабліва пасля апошняга выпрабавання, калі прайшоў прыніжэнне беспрацоўем, — ці ж лёгка мужчыне ў сталым узросце, які мае сям'ю, цікавую работу, апынуцца на вуліцы?!

Што рабіць? Напачатку было проста жаданне дапамагчы жонцы — зрабіць хоць бы плеценую з лазы падстаўку для яе кампазіцыі. Яшчэ ў даперабудовачны час Наталля пасля дваццаці гадоў працы хімікам-тэхнолагам захапілася фларыстыкай (мастацтвам стварэння кампазіцый з кветак, траў) — ды так, што нават рызыкнула змяніць сваю прафесію і зрабіць гэты занятак асноўным.

**Юрый:** — Наташа і хацела пакінуць сваю прафесію, і сумнявалася. Але я сказаў — вырашай сама. А калі яна адважылася, то тут ужо ва ўсім падтрымліваў.

**Наталля:** — Сваркі ў нас пачаліся на глебе Юравай творчасці — я раю яму: так і так рабі...

**Юрый:** — Я крыўдую, калі яна вельмі актыўна ўмешваецца. Хоць разумею: Наташа ўжо дасягнула высокага ўзроўню. Ды яна з самага пачатку цудоўна адчувала матэрыял. Я ўжо не вучань, але, можа, яшчэ і не майстар, а яна з такімі патрабаваннямі да мяне! Я ж і сам імкнуся, каб кожная рэч атрымлівалася, як цацка, каб захацелася яе пагладзіць, палюбавацца...

**Наталля:** — Так, грэшная, бо нецярплівая, апярэджваю падзеі. А Юра вельмі цярплівы чалавек. Вось і сядзелка з мяне атрымалася няважная. У Юры, калі мы ў кватэру ўехалі, вельмі востры прыступ рэўматоіднага артрыту пачаўся. І тым не менш, пераадольваючы боль, з дрылём працаваў дома. Толькі аналізы паказвалі, што справы вельмі дрэнныя, а знешне ён добра трымаўся. Прагноз урачоў: праз 3—4 гады поўная інваліднасць. А вось ужо колькі гадоў прайшло, і наш татуля ў парадку. Толькі дзякуючы сваёй упартай натуры, волі, пераадолеў хваробу.

...На адной з калядных выстаў у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ўжо трое Мацвеевых былі прадстаўлены: сын Кірыл пайшоў шляхам бацькі і таксама асвоіў лозапляценне. Ну а Наталля ў сваёй справе даўно ўжо ас. Яе кампазіцыі ўпрыгожваюць рэзідэнцыю для прыёмаў Прэзідэнта нашай краіны, пасольствы Беларусі ў замежных краінах. Між іншым, калі ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы адзначалася 500-годдзе Францішка Скарыны, то там наладзілі выставу работ беларускіх майстроў народнай творчасці. Сярод запрошаных была і Наталля Мацвеева.



Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ і Яўгена КАЗЮЛІ.

АСОБА

## Анатоль БАГАТЫРОЎ: «НІКОМУ НЕ РАБІЎ ЗЛА...»

Уладзімір ЛІПСКІ.

*ПЕРАДА МНОЮ патрыярх нацыянальнага мастацтва, адзін з заснавальнікаў сучаснай кампазітарскай школы на Беларусі, славуты кампазітар, педагог, грамадскі дзеяч, народны артыст, жывая легенда. Волат, БАГАТЫРОЎ! Раяцца сотні пытанняў. Хочацца наспешна пагаварыць з Анатолем Васільевічам пра ўсё-ўсё. А ён, просты і ўсмешлівы, сам пачынае размову:*

— Мы былі Багацькі. Жылі ў вёсцы Кабішча, у Гарадоцкім павеце. У сям'і — васемнаццаць дзяцей. Калі дзялілі зямлю, меншым Багацькам нічога не дасталася, і мой дзед, з меншых, пайшоў у горад і стаў рабочым на скураным заводзе. Ажаніўся з Ульянай, дачкой рабочага. От і напісана ў энцыклапедыі, што я родам з Віцебска. А папраўдзе — з вёскі. Усе мы — ад зямлі...

**— Як атрымалася, што Багацькі сталі Багатыровымі?**

— Раскажу. Два дзедавы браты сталі Георгіеўскімі кавалерамі за Шыпку і Плеўна. Вярнуліся ў вёску героямі. Хлопцы — да ўрадніка, атрымліваць дакументы. Той выслухаў герояў вайны дый кажа: "Вы ж багатыры!.." А як выпісвалі дакументы, да слова "багатыр" дадалі канчатак "оў". Вось і перайначыўураднік Багацькаў у Багатыровых. Начальства ўсё можа...

**— Калі адчулі, што вы сапраўдны Багатыроў?**

— У трыццаць сёмым годзе. Наш настаўнік, прафесар Залатароў даў усім заданне — напісаць музыку па творах Аляксандра Пушкіна. Мне перапала "Казка пра мядзведзіху". Доўга мучыўся, атрымалася натхнёная кантата, якая адразу загучала. Пайшла па ўсім колішнім Савецкім Саюзе, аж да Сахаліна. І цяпер яна выконваецца ва ўсіх харавых класах у музычных вучылішчах. Вось так!

**— З Багацькаў быў яшчэ хто-небудзь музыкантам?**

— Сярод тых, каго ведаю, не было. Дзед быў рабочым, па ім пайшлі ўсе. А што? Атрымліваў у месяц сто рублёў. Вялікія грошы. Хапала, каб утрымліваць 10 дзяцей.

**— Што найбольш цэніць Багатыроў са зробленага ў музыцы?**

— Цяжка сказаць. Пра "Мядзведзіху..." я ўжо казаў. Люблю свае оперы. Асабліва — "У пушчах Палесся".

*Нагадаем чытачам, што опера Анатоля Багатырова "У пушчах Палесся" (лібрэта Янкі Рамановіча) пастаўлена па аповесці Якуба Коласа "Дрыгва" ў 1939 годзе. Яна лічыцца адной з першых нацыянальных опер. Праз два гады пасля пастаноўкі яе аўтар, кампазітар А. Багатыроў, атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР і стаў заслужаным артыстам БССР.*

**— А як Якуб Колас ацаніў оперу?**

— Добра. Яму падабалася музыка і лібрэта. Мы сябравалі з Коласам. Калі да яго завітвалі важныя госці, прыводзіў да мяне на абед. Помню гасцяванне Аляксандра Фадзеева, Сяргея Гарадзецкага і гэтак далей. З Рамановічам ездзілі да яго на дачу, узгаднялі асобныя сцэнкі па спектаклю. Сур'ёзных заўваг не мелі.

**— Анатоль Васільевіч, у вас багата званняў, узнагарод. Што самае дарагое?**

— Самае высокае званне — быць Чалавекам. Гэта — галоўнае. Імкнуўся быць сумленным чалавекам. Ніколі не падхалімнічаў перад начальствам.

**— Начальству часам гэта не падабаецца.**

— Таму я і не народны артыст СССР. Да Машэрава не хадзіў на паклон. А ён вучыўся ў майго бацькі ў педінстытуце ў Віцебску.

**— А што ваш бацька яму ставіў па беларускай і рускай мовах?**

— Чацвёркі. Бацька мой — прафесар старой школы. Вельмі строгі быў да вучняў. Ён нават сваёй дачцэ Людміле паставіў на экзамене "тройку". Пры ўсім класе сачыненне правяраў.

**— Каго з беларускіх кампазітараў можна вылучыць у песенным жанры?**

— Ігар Лучанок, Юрый Семяняка, Дзмітрый Смольскі — мае вучні, дарэчы. Іншыя вучні таксама пішуць песні — Эдуард Зарыцкі, Генрых Вагнер, Леанід Захлеўны, Віктар Войцік, Андрэй Мдзівані, Уладзімір Солтан.

*Трэба зазначыць, што Анатоль Васільевіч нязменна, пяцьдзесят гадоў, вядзе клас кампазіцыі ў Беларускай акадэміі музыкі. Праз яго рукі, як кажуць, прайшлі амаль усе сучасныя кампазітары. Больш таго, маэстра А. Багатыроў адзіннаццаць гадоў узначальваў Саюз кампазітараў, з пачатку яго заснавання ў 1938 годзе, тады, калі сённяшні старшыня творчага Саюза Ігар Лучанок толькі-толькі нарадзіўся. І ў сувязі з гэтым узнікае новае пытанне:*

**— Хто вашы сябры ў жыцці?**

— З Купалам і Коласам сябравалі. З Данілам Коласам (сынам Якуба Коласа), Танкам... Нікога не падвёў.

**— А можна было?**

— Яшчэ як, асабліва ў гады рэпрэсій. Тры ночы выклікалі мяне ў пэўныя інстанцыі. Загадвалі: "Падпішы спіс на арышт кампазітараў". Я ж старшыня саюза, патрабавалася мая фармальная санкцыя. Не падпісаў. Маё сумленне чыстае.

**— А вам паказвалі той спіс "ворагаў", вы чыталі яго?**

— Ды яго зачытаў Панамарэнка на пленуме ЦК. Там былі Купала, Колас, Лынькоў. Я стаяў пад нумарам дзевятнаццаць. З гэтым спісам Панамарэнка ездзіў да Сталіна. Той быў у добрым настроі і сказаў: "Давайце, таварыш Панамарэнка, замест ордэраў выдадзім ордэны. Тады шэсць пісьменнікаў атрымалі высокія ўрадавыя ўзнагароды — Купала, Колас, Лынькоў, Бядуля, Глебка, Броўка. З кампазітараў нікому не далі...

**— А што нашчадкі захаваюць у памяці з багатай спадчыны кампазітара Анатоля Багатырова?**

— Цяжка сказаць. Думаю, нашчадкаў зацікавяць мае рамансы. Яны ўжо цяпер гучаць у Амерыцы, асабліва на словы Шэкспіра і Ахматавай: "Проснись, любовь", "Любовь — мой грех", "Как разлучил апрель", "Я окошко не завесила..." Ёсць, на мой погляд, добрыя рамансы і на словы Коласа, Купалы, Багдановіча, Куляшова, Танка, Пушкіна, іх павінны ацаніць слухачы.

**— Анатоль Васільевіч, у вас багата рамансаў пра каханне. Ці сустрэлі яго ў сваім жыцці?**

— О, каханне — салодкі грэх. Я шчаслівы, бо жаніўся па каханню. Маёй выбранніцай стала вядомая спявачка Наталля Зубковіч, дачка свяшчэнніка з Глуска. Мы з ёю пражылі ў каханні трыццаць чатыры гады. Цудоўная жанчына! Разумная. Абаяльная. Божа мой, ад яе ўсе трацілі розум, а яна шчодра дарыла каханне мне. Таму і атрымаўся кампазітар Багатыроў. Без кахання цяжка кампазітару, без яго, думаю, нельга рэалізаваць свае здольнасці.

**— Я ведаю, Анатоль Васільевіч, што вы цяпер жывяце адзін. Як пераадольваеце адзіноту?**

— На жаль, мая любая жонка памерла. Другі дзесятак гадоў жыву адзін. Мы гадавалі прыёмную дачку. Ёсць ужо ўнукі. Падтрымліваем адзін аднаго... А калі шчыра, я люблю адзіноту. Веру ў Бога з дзяцінства. У душы веру. Па цэрквах не хаджу, толькі калі бываю ў Маскве ці за мяжой. Музыка дапамагае ў адзіноце. Пішу ўспаміны.

**— А што пажадалі б усім беларусам з вышыні сваіх гадоў?**

— Каб любілі сябе. І каб ніколі не забываліся, што яны — беларусы і маюць сваю краіну. Жыццё — адзін міг. І трэба, як вучыў Хрыстос, Чалавек-Бог, нікому не рабіць зла, быць сумленным і добрым...

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# У АРГЕНЦІНУ ПА ШЧАСЦЕ

## З ДЗЁННІКА АНТОНА КОРШУНА

Не прайшло і тыдня, успыхнуў дзяржаўны пераварот, падрыхтаваны генералам Урыбуру супраць прэзідэнта Іпаліта Ірагажона. Генерал захапіў уладу, устанавіў дыктатуру. За кароткі тэрмін у краіне вырасла мільённая армія беспрацоўных, аб'явілі ўсеагульную забастоўку. Працуючы сталяром на фабрыцы, змяніў кватэру. Гэта кватэра не лепшая за першую. 4х4 метры, дзевяць чалавек і пяць ложкаў. Усе жыхары другой кватэры былі беларусамі. Па расказу многіх эмігрантаў, жыццё беларусаў у Аргенціне, хачу адзначыць, гэта не ЗША, як лагер бестэрміновай турмы.

Захварэў, не працую, пакінуў кватэру, начую дзе папала. Мяне выратаваў эмігрант з Баранавічаў Максім Строк. Ён зняў апошнія 20 песа з банка і наняў мне пакой. За яго дабрыню я навучыў Максіма працаваць сталяром. Ён быў мне як брат, мы сябравалі з ім доўгія гады.

* * *

Не прайшло і двух гадоў, месца прэзідэнта заняў Аўгуст Хуста, аднак сітуацыя ў краіне не палепшылася. Праз некалькі гадоў да ўлады прыйшоў Х. Перон. У яго была вельмі прыгожая жонка Эва Перон. Яе абралі віцэ-прэзідэнтам. Яна многа рабіла для бедных людзей. Але неўзабаве памерла, я плакаў.

У пакоі, нанятым Максімам, я жыў да 17 студзеня 1934 года. Перайшоў працаваць на фабрыку мэблі спадара Бардашэўскага. Тут працаваў са мной М. Строк. Абодва працавалі адным інструментам. Гэты перыяд быў вяршыняй яго навукі па сталярнай справе. Часта працавалі ў пары, за гэтыя гады многаму навучыліся абодва, сталі добрымі майстрамі. Я атрымаў права мець свой штамп майстра.

Улада Перона хісталася пад ударамі ваеннай хунты і экспансіяй паўночнаамерыканскіх кампаній, якія распаўзаліся па ўсёй краіне і вывозілі хлеб і мяса. Перон неаднаразова гаварыў, што амерыканскія манаполіі падрываюць асновы нацыянальнай эканомікі Аргенціны.

* * *

У 1936 годзе наняў кватэру ў фабрыканта Сымона Фелькера, яўрэя з Нясвіжа, пражыў тут да 1939 года. На гэтай самай таннай кватэры, усяго за 8 доларaў у месяц, многа разоў праводзілі сход рабочых. Фелькер быў палітычна адукаваным чалавекам, спачуваў камуністам, часта прысутнічаў на нашых сходках, гутарыў са сваімі рабочымі аб іх праблемах. Ён мне заявіў, што Расія будзе краінай міру і высокай адукацыі, калі не стане душыць прыватную ўласнасць, сказаў мне, што паважае мяне як камуніста, барацьбіта за правы пралетарыяту. Я адказаў, што не рускі, я беларус і не камуніст, я просты рабочы, палітыкай заняўся толькі ў Аргенціне. На радзіме ў нас беларусы не любяць палітыкаў, і рэвалюцыі ў нас не было. Ён адказаў: я не ведаю, камуніст ты ці не, але ўсё тваё жыццё пройдзе з ідэямі Маркса, толькі ты павінен берагчы сваё слабае сэрца, не аддавай апошнюю кашулю. Глядзі, Антон, не ўсе бедныя хочуць быць беднымі, не ўсе скажуць табе дзякуй. Багатыя тым больш не дапамогуць. Я адказаў: ды чорт з імі, маё жыццё мне не дарагое, шкада толькі жонкі і дзяцей.

Вучу рускую мову, добра пішу і размаўляю на іспанскай, англійскую і французскую мовы спасцігаю з цяжкасцю.

* * *

На гарызонце палітыкі з'явіўся новы лідэр Франдзізі, усе зацягнулі паясы, рэзка пайшлі цэны ўверх. Зваліў усю віну на камуністаў, што, маўляў, вінаватыя ў такім эканамічным калапсе агенты Сталіна. У той час у Аргенціне налічвалася больш двух дзесяткаў "арганізацый", у кожнай з іх знаходзіліся людзі розных прафесій, адукаваныя і неадукаваныя, але ні адна партыя не была загнана ў падполле, толькі камуністычная.

* * *

9 сакавіка 1942 года. Перавод газеты "Эхо" на імя новага дырэктара Антона Коршуна. У рэдакцыі сабраліся ўсе работнікі газеты, мяне віншавалі. У працэдуры перадачы прыняў удзел былы ўладальнік Іосіф Альсевіч.

13 сакавіка 1942 года выйшаў першы нумар газеты "Эхо" за подпісам А. Коршуна. Газета зрабіла круты паварот у палітыцы асвятлення інфармацыі на бок СССР, у абарону сваёй любімай Радзімы. Галоўным маім дарадцам і намеснікам стаў Валерый Смірноф. Валерый перадаў спіс актыўных членаў рэдактарскай пошты: Сасноўская, Тарасенка, Цэтлін, Г. Валконскі, М. Нячаеў, Брадкоф, Міна Стахнюк, Макс Лопак, Шастакоўскі, Невярсон, Кавалеўскі, Лукашэвіч, Пятроф, Бярляўскі, Савіцкая, Букава, Гайлевіч, Бараноўскі, Ян Людзіч, А. Камінскі, Р. Хірсхевейн, А. Саланенка, М. Берніковіч, Марк Самавук, Н. Харэвіч, др. Д. Шрунберг, А. Сасноўскі, Ян Хорскі, Марка Явар, Е. Аксяльрод, М. Бібак, Н. Карнялюк, П. Панко, В. Сіткевіч, Ян Снітко, Барыс Рэўчук з Брэста, Ю. Галуза, В. Люскевіч, А. Хвейсік, А. Глобус, Мацкевіч, Т. Крэдуш, Ян Бортнік, Вікт. Мінееф, В. Паміна, А. Хозін, М. Дайнека, Д. Фількові́ч, В. Крукоўскі, Ф. Козел, А. Сасноўскі, Н. Міровіч, С. Мігноўскі, Д. Шчарбакоў, С. Лапака, Ю. Буй, Люскевіч, П. Хелік, К. Адасько, Н. Беразук, П. Нежук, А. Давідовіч, Ян Слісарчук, М. Пракопік, Антановіч, Рабор, М. Марфушэвіч, Е. Ульчук, М. Янішчук, П. Карповіч, Ян Паляшук, Рачкоўскі, Брадкочв, Ян Свійскі, С. Парохін, В. Кавалёф, М. Міраноўскі, Е. Марусяк, В. Яшкевіч, Альбін Бубен, В. Варанковіч, Ю. Мядзелка, Д. Бразоль, М. Панасюк, Т. Клімашэўскі, Н. Мірэчка, Р. Солікава, В. Пяткевіч, Б. Зускевіч, А. Сасноўскі, І. Крэміч, В. Астапенка, С. Ромаш, К. Вінель, Я. Прусік, Я. Свонік, В. Касьянік, Ф. Майло, П. Альсіевіч, Я. Снітко, Ю. Карчук, Якаў Сік, Н. Хічкан, Э. Піёдчук, П. Косяк, М. Явор, В. Клімовіч, М. Падоба, Ян Дудко, М. Якута, Ш. Парбацёвіч, В. Мазюк, Ю. Хомік, А. Місліцкі, П. Лянковіч, Ф. Зянчук, М. Барыскін, С. Лапака, Е. Янулік, А. Ясіровіч, Б. Вязюк, М. Бондар, Б. Слушчук, Д. Захарка, А. Варлоўскі, І. Шахмуць, Ян Бурвель, Б. Слізень, Е. Грышко, П. Прушфучык, М. Сасунік, У. Яўчук, А. Алексяйчук, І. Прушчук, С. Паліха, В. Скочулас, В. Булаты.

* * *

Пераехаў на новую кватэру, гэтая 12-я па ліку. Звольнілі з працы: камуніст! Паступіў на працу ў касцёл чорнарабочым. Пасля работы — у рэдакцыю, так працуюць большасць супрацоўнікаў. Спіс актывістаў-беларусаў — тайна для большасці грамадскіх работнікаў. Хаджу ў бібліятэку Луцкевічаў, рыхтую артыкулы, наведаў украінскую Культкамісію. Вельмі непакоіць вайна ў Еўропе. Рабочыя прыходзяць у касцёл. Займаемся самаадукацыяй у семінарскай сталоўцы. Вечарам — на канцэрт. Усе цвярозыя. Дрэнна разыходзяцца беларускія календары, паслаў пісьмы ў таварыствы "Пушкін", "Бялінскі", "Дніпро". З'езд федэральнай камісіі па культуры. Слухалі маю справаздачу. Сход актыву ў бібліятэцы Луцкевічаў — былі Гайлевіч, Мярэчка. Звольнілі, забраў інструмент. У рэдакцыі "Эхо" Мярэчка сказаў: "Калі б не беларускія таварыствы, гэтае пасяджэнне прайшло б у турме".

Канцэрт. Баль у Гайлевіча. Купаліся ў басейне. На вайну паехалі Адам Вількевіч, Пётр Гладкі. Развіталіся ў новым порце ў Буэнас-Айрэсе. Трэба заплаціць пошце. Альсіевіч ездзіў на пошту, уладзіў справы наконт "Эхо". Уладкаваўся на працу. Атрымаў ад улад дакумент на выхад газеты за нумарам 110238. Ноч не спаў ніводнай мінуты, друкаваў першы свой нумар, завёз на пошту ў 6 гадзін раніцы. Раніцай прыйшоў Сасноўскі і сказаў, што паштальёны адмовіліся яе прадаваць, пабаяліся турмы. Прадбачу, што ў хуткім часе будзе закрыта наша "Эхо", будзе пераварот. Прыходзіў Канстанцін Пастэрнак, прасіў прадаць яму "Эхо".

* * *

Лістапад 42 года, бура і вялікая вада з акіяна, град і ўраган. Люты 43 года, без працы. Сустрэў у горадзе рускага капітана. Гаварылі мала, яму нельга. Дзіўна. Красавік. Выйшаў юбілейны нумар "Эхо". 21-я гадавіна вяселля 1922—1943. Спрэчкі ў кіраўніцтве газеты, на мяне ціснуць: М. Урэскі крычаў: "Ды ты разумны!" Яны мяне дрэнна разумеюць. Другая гадавіна вайны. На праўленні федэрацыі прынята мая адстаўка. Выйшаў апошні мой нумар "Эхо". 1 ліпеня 1943 года газета "Эхо" № 92. У гэтым нумары надрукавана мая фатаграфія. Гэта быў апошні нумар, дзе была надрукавана падзяка за маю работу як у газеце, так і ў таварыстве. Быў у рэстаране "Тройка". Захварэў. Прыйшлі наведаць з праўлення Федэрацыі сябры вышэйшага Савета. Гутарка вялася 40 мінут. Сабраў пасылку ва Уругвай, сябрам, купіў адзення на 5 000 песа. Мне горш, обмарак.

Лістапад 43, горача. Пакінуў працу ў школе. Скончыліся грошы. Прадаў усе рэчы, шафу. Купіў лекі. Снежань, ляжу, стараюся не думаць пра жонку і дзяцей, як там ім жывецца пад фашыстам, можа іх ужо няма? Напісаў некалькі радкоў, вершы дрэнныя, але ў іх мой боль за ўсіх вас, мае родныя.

Люты 44, працую дома. Сакавік, паехаў у Мантэвідэа, быў у В. Сон. Пералязаю праз высокі плот (думаю, што арыштуюць, нехта са сваіх данёс). Сон. Праходзіў па лесе, сядзела многа людзей, яны пасвілі жывёлу, у доме людзі-дактары... Шукаў у стружках нешта — знайшоў, кніга (гэта непрыемнасць).

Красавік 44. Сон. Збіраюся ў паход з дзвюма паненкамі, яны босыя. Бацька сказаў: варацiся, рака Шчара. Прачнуўся, дурны сон. Дрэнна сплю, сню ўсялякую неразбярыху. Напэўна будзе смерць.

Чэрвень. Знайшоў работу. Запісаў сваю думку: сярод людзей дурняў нямала, разумныя ж, жывуць па-грамадску і справы дружна абмяркоўваюць. А дурняў "багачы" за грошы купляюць і на разумных людзей натраўляюць. Такая палітыка ўвогуле па ўсёй Амерыцы. Выключаючы Кубу, там ужо ідзе сапраўдная барацьба. "Барбуда" — так называюць вулічных дзяцей у Буэнас-Айрэсе. Жыву ў Мароне. Дапамагаю гаспадыні дома Наташы Скрабінай.

Начная аблава ў г. Мароне. 24 мая 44 года ноччу арыштаваны паліцыяй 5 чалавек. На руках ланцугі, кайданы. Накіраваны ў турму "Дзевота", аддзел "палітзняволеныя". Сяджу тры месяцы... (далей звестак няма). Пераехаў у г. Псінглес, стаў працаваць на фабрыцы. У мяне два новыя сябры, украінец Васіль і В. Дзмітрышын. Наша фабрыка разарылася. Украінцы запілі. Васіль неўзабаве памёр ад п'янства. Засталіся жонка і дачка.

* * *

45 год. Пачаў працаваць у Седыа 1851, а жыў насупраць фабрыкі ў "кухні" за 15 доларaў у доме фабрыканта Саламона Врубеля з Тарашчы, што на Украіне. Хаджу ў басейн, працаваў да 22 верасня 46 г. Пераехаў на другое месца, зняў кватэру за 25 доларaў у месяц. Жыццё маё супакоілася, думаю аб вяртанні дамоў. Падаражэлі цэны на тавары.

* * *

Быў у савецкім консульстве, гутарыў з шэфам Пятром Луцыкам, пазнаёміўся з сакратаром Мікалаем Сеўруговым. Гэта сапраўдныя камуністы. Я сказаў, што я люблю сваю радзіму і хачу стаць грамадзянінам СССР. 30 кастрычніка 1947 я атрымаў пашпарт грамадзяніна СССР. Вельмі таму радаваўся. Аднавіў перапіску з роднымі з БССР. Я даведаўся, як там цяпер добра жыць. Маёй жонцы ўжо не трэба клапаціцца аб пакупцы зямлі. Я даведаўся, што зямля ў савецкай краіне не купляецца і не прадаецца — уся толькі народная. А дарагія цукеркі цяпер у СССР (забаўная драбяза) вельмі танныя. Лета 48 г. У порце стаіць карабель з СССР, я з сябрамі падымаўся на борт, гэта тэрыторыя савецкай краіны. Яны, матросы, спачатку нас прынялі за фабрыкантаў, мы апрануты ў белыя касцюмы, капелюшы. Баліць часта горла. Доктар сказаў, трэба класціся ў шпіталь. Быў на вечары ў "Пушкіна". Гайлевіч гаварыў, што Ляшук, не любіць Сталіна, гаворыць, ён дыктатар, мае нататкі ён друкаваць адмаўляецца. Большасць беларусаў тут у Аргенціне пажаніліся, многія разбагацелі і маюць свае фабрыкі, магазіны і нават рэстараны. Асабліва добра жывуць беларусы на зямлі. Кожнаму эмігранту, хто жадае працаваць на зямлі, даюць 25 гектараў сельвы (балота), першыя гады цяжка, але пасля адразу багацеюць. Іх дзеці ўсе вучацца ў ЗША. Той-сёй вяртаецца і адкрывае свой прыватны бізнес. Сталі купляць аўтамабілі. Капіталізм усім улез у душу, і многія забыліся, што яны простыя рабочыя і павінны змагацца з імперыялізмам ЗША, Англіі і Францыі. Пенсіі ў Аргенціне высокія, нават вышэй заробку. Некаторыя купілі дамы з басейнамі і спортпляцоўкамі у багачоў, што разарыліся. Урад зусім не звяртае ўвагі на пралетарыят, ты будзеш у пашане і з даходам, калі не будзеш камуністам. Забалела горла, лёг у бальніцу. Аперыравалі на горла.



* * *

Лета 55 года. Аналізы. Цячэ кроў з вушэй. Праверка горла. Бальніца носіць імя "Эва Перон", я яе ведаў. Гэта вельмі добрая клініка, але платная. Доктар глядзеў рэнтгенздымкі, перавёў у бальніцу "Таракс". Заплаціў за аперацыю 1 780 песа. 7 лістапада прапісалі 80 уколаў і 200 пілюль. 30 уколаў з ЗША аказаліся сапсаванымі. Лячэнне без вынікаў. Здаў адзенне і пайшоў дамоў. Стаў працаваць у рэстаране. Купаўся ў салёным возеры. Купіў гадзіннік ручны за 1 330 песа. Быў у амерыканскім Луна-Парку. Артысты з СССР. Многа музыкі. Змяніў пакой.

Праводзіў у новым порце консула СССР. Паехаў на радзіму Мярэчка Мікалай. Атрымаў пенсію 3 800 песа. Напісаў анкеты на выезд. Развітваўся Шашкін і яго дваццаць сяброў, з Алтая. У верасні 58 года абакралі газету "Эхо".

* * *

1959 год. У клубе "Пушкіна" падарыў Аляксею Несцеруку на 150 п. пісьмовых прын. Паступіў на работу на малочны завод. Абедаю на каленях, прадаў стол за 15 000 песа. На заводзе плацяць 30 песа ў гадзіну, гэта 5 доларaў. Рабочыя забаставалі. 4 верасня ваенны пераварот. Купіў тэлевізар за 9 000 песа. Усеагульная забастоўка.

1960 г. Прыбавілі пенсію на 30 доларaў, цяпер атрымліваю 5 800. Купіў "сучасны" пожак за 586 песа, паліто і капялюш.

У Аргенціне ўсе ходзяць у чыстым адзенні, а капелюшы — гэта вельмі важна для здароўя галавы, сонца пячэ жудасна. Капелюшы з ЗША вельмі дарагія, але з добрай воўны і доўга носяцца. Атрымаў анкеты па пытанню матэрыяльнага становішча. 1961 год. Купіў акуляры для работы за 480 песа. Перайшоў працаваць на фабрыку мэблі М. Каранада. Выпрацоўка за месяц 1 100 доларaў. Забалеў зуб. Перайшоў працаваць на завод механічны па зборцы гадзіннікаў. Сабраў за месяц 145 будзільнікаў, няма рэкламацый. Пішу пісьмы на Радзіму. Жонка просіць што-небудзь прыслаць. Яна зневажае савецкі лад. Як гэта можна так добра жыць і прасіць капіталістычныхануч.

* * *

1962. Год вялікай радасці, пісьмы з Радзімы сталі прыходзіць без затрымкі і многа. Захварэў, патраціў на ўколы 1 100 доларaў. Свята Нараджэння Хрыстова 25.12.63 правёў у доме А. Маляўкі. Да раніцы, і там жа цэлы дзень танцавалі і пілі шампанскае. Горача — 38 у ценю. Новы год сустракаў на віле аднаго беларуса, быў Маляўка з сям'ёй. Усё было вельмі важна... сумна.

* * *

Паправіўся, працую на фабрыцы, цэхі без вокнаў, цэлы дзень пры электрычным асвятленні. Сонца бачу толькі ў час абеду. У Аргенціне чэрвень, ліпень, жнівень самыя кароткія дні. Выйшаў з фабрыкі, і ўжо цёмна. Галоўная думка мая, калі прыеду дамоў. Паслаў запыт у Маскву, адказу пакуль няма. Здароўе наладзілася, калі б не мог працаваць, то і не спрабаваў бы вярнуцца дамоў. Хаця вельмі цяжка гарантаваць здароўе на будучыню. Цяпер сярод актыўных эмігрантаў пачасціліся выпадкі нечаканай смерці. У пачатку 63 года паліцыя закрыла ўсе грамадскія арганізацыі. Пасля працы сяджу дома, многія мае старыя сябры мяне больш не прызнаюць. Нават калі хварэў, ніхто не прыйшоў наведаць, назвалі мяне — камуністам і ніякай дапамогі не далі. Я на слова камуніст не крыўджуся. Наадварот, ганаруся. Яны ж пабіваюць усе рэкорды на планеце Зямля. Толькі капіталісты ламаюць зубы ад зайздрасці. І як пісаў Карл Маркс, капіталізм сам вырые сабе магілу. Пакончыў з сабой стары эмігрант з Віцебска — Вярбіла. Стары жыў адзін, усе яго кінулі. Савецкая ўлада так бы не зрабіла.

Аднёс артыкул пра самую справядлівую ўладу — Савецкую ў газету "Родной голос". Напісаў пісьмо паслу СССР у Аргенціне таварышу Аляксееву Н. Б. па аказанні мне матэрыяльнай і маральнай дапамогі для вяртання на сваю вялікую Радзіму БССР. Быў у Станіслава Петрушкевіча, гаварылі аб маім звароце, ён не ўпэўнены, што я маю рацыю. Але з цікавасцю слухаў пра маё роднае сяло і жонку. Ён сказаў, што наладзіць з Гайлевічам вялікі банкет з фатографамі і кіназдымкай.

Не чакаў пісьма з Масквы, схадзіў у консульства і да адваката. Быў у рэдакцыі "Родного голоса" Гайлевіч, перадаў адрас С. С. Лабунькі, эмігранта, ён раней вярнуўся на радзіму ў Міёрскі раён. Снежань 63, гарачыня 34 градусы. Прыходзілі палякі, прасілі пасля вяртання наведаць іх сваякоў у Польшчы.

* * *

У "Мартин Коронадо" ўзялі мой артыкул. Вельмі хваліў рэдактар, перадаў захапленне ў літаратурным сэнсе, надрукавалі ў

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 13—14.



скарачэнні. Сустракаўся з рабочымі металургічнага прадпрыемства ў Гуйдадэла, у Антона Паўлоўскага, ён купіў сабе домік. Гэты Паўлоўскі мне мала знаёмы (віленскі беларус).

Інфляцыя ў краіне пад націскам усемагутнага долара. Наняў хатнюю гаспадыню, крэолку, яна не разумее эканомію, не тое, што нашы жанчыны-беларускі. Выгнаў яе. Даўно не было пісьмаў з дому, як там мае дачка і сын. За савецкай уладай можна бясплатна вывучыцца на настаўніка і інжынера.

Заняў месца ў рэдакцыйнай калегіі штотыднёвіка ў якасці дэлегата ад клуба "В. Р. Бялінскага", бо ад усяго адразу немагчыма адмовіцца — асобы адыходзяць, а арганізацыі застаюцца.

***

11 мая 64 года ў консульстве гутарка з сакратаром, гутарка з консулам наконт выезду і пераводу маёй пенсіі на банк "Кантыненталь". Адвакат Ускабана пакуль адмовіўся, я думаю, што змагу ўсё зрабіць сам.

Пачаў накідваць нарыс пра існаванне, закрыццё беларускіх культурна-асветніцкіх таварыстваў у Аргенціне.

17 мая быў у Гайлевіча, запоўняў анкеты на машынцы. Наведаў "Каранада". 18.05. у консульстве гутарка аб выездзе... прапануюць Польшчу. Падарыў кнігу жанчыне служачай у консульстве.

20 мая. У цэнтральнай паліцыі, па пасведчанне на праезд у Еўропу. Канторшчыкі валакіцяць, адмовіліся выдаць анкету. Давялося звярнуцца да галоўнага "хефа", які і выдаў мне анкету з подпісам, дзе была відаць прыкметна пячаць. Усё запоўніў сам і здаў. Паслаў жонцы пісьмо. Гадавіна вяселля. Быў у рэстаране, 28 мая, заўсёды сэрца ўспамінае...

***

Рашэннем суда адкрылі клуб "Пушкін", справядлівасць перамагае, нягледзячы на тое, што чатыры гады клуб быў зачынены. 14 ліпеня гаварыў з *народным артыстам СССР* Ігарам Маісеевым. Быў на ўсіх яго канцэртах. Хутка паехалі. Вечарам у пасольстве наведаў кіно "Блакада Ленінграда". 21 ліпеня 64 г. У міністэрстве на Пасеа Калон на 3 паверсе гутарыў з галоўным... "хефам" аб выездзе. Зноў быў у міністэрстве. Абед, міністр абедае да пяці гадзін. Трэба чакаць.

1 жніўня 64 г. У клубе "Пушкін" вялікая святочная вячэра, было 130 беларусаў, украінцаў, рускіх. Скідваліся па 12 000 песа. Вечар і ўся ноч прайшлі весела, спявалі беларускія і ўкраінскія песні, я і тав. Сяўчук К. пайшлі ў 6 раніцы.

5 жніўня. Зноў у міністэрстве з пісьмом з просьбай, было ўсё прынята з вялікай увагай і сказана, што 10 жніўня ўсё будзе гатова.

10 жніўня. Галоўнае міністэрства Аргенціны дазволіла перавесці пенсію на маю Радзіму. Усе трое мужчын міністэрства падалі рукі, пажадалі шчаслівай дарогі.

У клубе "Пушкін" у сувязі з маім ад'ездам на Радзіму мне падарылі памятную грамату, імёны і прозвішчы, росписы ў гонар нашай шматгадовай дружбы, уручыў яе Генеральны сакратар Федэрацыі беларускіх культурных таварыстваў і арганізацый у Аргенціне таварыш, любімы мой сябар Уладзіслаў Гайлевіч.

***

Мае провады адбыліся 12.09.64 г. у раскошнай сталічнай зале "Уніён і Баневаленза". Нягледзячы на дрэннае надвор'е, прыбыло мяне правесці шмат суайчыннікаў, што гаворыць пра тое, што пражыў гэтыя 35 гадоў сумленна, быў адданы сваім землякам і заўсёды змагаўся за справядлівасць для рабочых пры капіталізме.

Выканалі нацыянальныя гімны Аргенціны і СССР, усе стаялі, многія плакалі. Першай на сцэну мяне павіншаваць выйшла ўсімі паважаная і любімая Сусана Маркушэўская-Дабнюк. Потым мяне віталі розныя танцавальныя групы, дзіцячыя і маладзёжныя. Выходзілі на сцэну прадстаўнікі клуба літоўскага, армянскага, ад клубаў: "Бялінскі", "Астроўскі", "Маякоўскі", "Дніпро", "Горкі". Армянская група "Каянэ" выканала цудоўна танцы нацыянальнага фальклору. Танцавальны ансамбль "Радуга" з клуба "Бялінскі" і ансамбль "Вячоркі" з клуба "Астроўскі" перасягнулі сваё, усім вядомае майстэрства. Выступіў П. Барвінскі, які падзякаваў мне і абняў.

Я выйшаў на сцэну пад гул апладысментаў і сказаў наступнае:

— Развітваючыся з Вамі назаўсёды, я не забуду нашай дружбы! Вялікае вам дзякуй, дарагія таварышы і спадары! Беларусам, літоўцам, украінцам, палякам, яўрэям і кіраўніцтву Кампартыі Аргенціны за вашу ацэнку маёй працы ў таварыствах, сумеснай культурнай працы. Дзякуй вам!

Вся жизнь моя Компартии
дана
В Аргентине, чужой
стороне.
Пусть волны глубокого
океана
не смоют память обо мне.

Для вас, товарищи,
я говорю,
Бороться за свободу нужно.
Одно лишь только
вас прошу,
Прощаясь навсегда, живите
дружно!

Усе жадалі са мной перагаварыць напаследак. Доўга гутарыў са сваім аднавяскоўцам Альбінам Бубенам, клікаў яго вяртацца на Радзіму. Ён даў мне адрасы сваіх родных у Мядзведзічах і ў Польшчы. Провады працягваліся цэлую ноч і дзень. Большасць сяброў прыйшло да парахода.

***

Білеты на радзіму плюс усе расходы мне каштавалі 23 000 долараў. Я прадаў усе свае рэчы, увесь багаж важыў не больш 120 кілаграмаў. Я не стаў капіталістам у Амерыцы, амаль бедняком вяртаўся дамоў. Скрыня добрага сталярнага інструмента, чамадан-архіў, усе паперы маёй грамадскай працы. І чамадан з дзвюма карцінамі і верхнім адзеннем.

Я сеў на параход з радасцю і сумам, лепшая частка жыцця засталася за бортам, яшчэ добрую гадзіну з верхняй палубы я ўзіраўся ў небаскробы Буэнас-Айрэса, але вось яны прапалі ўдалечыні, матрос паклікаў усіх падарожнікаў абедаць.

Праз некалькі тыдняў я прыбыў у Італію ў порт Генуя. 19 кастрычніка 1964 года праблемы з багажом. Мяне падманулі: пры пагрузцы на параход з мяне не ўзялі плату за багаж. Ён важыў 127 кілаграмаў, такая вага аб'яўляецца ручной кладдзю і перавозіцца бясплатна. Але ў Італіі яго пераважылі, 150 кілаграмаў і больш, значыць трэба плаціць задні́м чыслом за правоз. Я пазваніў у агенцтва "Турызмо Мундеаль", мне адказалі, што я сам адмовіўся плаціць за правоз на тэрыторыі Аргенціны, г. зн. заплачу ў Італіі. Нейкае глупства! Сам жа гаспадар агенцтва сказаў, што ніякай даплаты на багаж не патрабуецца.

Я адмовіўся плаціць, груз арыштавалі, мне ўручылі квітанцыю, а чамаданы — у камеру захоўвання.

20 кастрычніка, еду ў Швейцарыю, потым у Аўстрыю, потым у Чэхаславакію, усё бліжэй і бліжэй да роднай стараны. Праехаў Польшчу — Брэст.

***

Я на Радзіме. Увайшоў у дзверы на хутары 24 кастрычніка 1964 года ў 4 гадзіны пасля абеду.

***

*На гэтым запісы Антона Коршуна пра жыццё ў Аргенціне абрываюцца.*

*Пераклаў іх і адаптаваў, як і ўвесь гэты расказ, з польскай, іспанскай моў* ваш слуга

**Міхась ТУРЫЯНСКІ.**

*Снежань 1998 года.*

*Ляхавічы—Смаленікі.*

**P.S.** Дзённік друкуецца, як дакумент, без літаратурнай апрацоўкі.

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

# ТАЛЕНТ СЯБРОЎСТВА

*Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць.*
*Даўно мы адлюбілі нашу маладосць.*

**Сяргей Панізьнік.**



ПЯЦЬДЗЕСЯТ гадоў працягваецца сяброўства Янкі Жамойціна і Міколы Рулінскага. Пазнаёміліся яны ў 1944 годзе падчас вучобы ў Альберціне, і з тых часоў працягваюцца ў іх цесныя сувязі. Па-рознаму складваўся ў іх лёс, але ў іх ёсць агульнае — любоў да Бацькаўшчыны. За актыўны ўдзел у даваенным беларускім жыцці абодва асуджаныя: Янка Жамойцін тэрмінам на 25 гадоў, з іх 10 адбыў у Карагандзе. У 1955 годзе да заканчэння тэрміну вызвалены і рэабілітаваны. Мікола Рулінскі свой тэрмін 10 гадоў адбываў у Омску. Янка Жамойцін жыве ў Варшаве, там скончыў універсітэт, з 1970 года актыўна выступае з рэпартажамі і артыкуламі ў беластоцкім штотыднёвіку "Ніва", у нью-йоркскай газеце "Беларус", у часопісе "Полацак". Яго вялікі артыкул надрукаваны ў калектыўным зборніку "Лёс аднаго пакалення", падараваным М. Рулінскаму з надпісам "Дарагому Міколе Рулінскаму — сябру юнацкіх дзён і ня толькі — аўтар".

Мікола Рулінскі жыве ў Літве, тут ён вучыўся ў беларускай гімназіі, тут на могілках на Ліпоўцы спачываюць яго бацькі. Дарэчы, бацька Мікалая — Максім Рулінскі — вядомы беларускі святар. Хоць і жывуць сябры юнацтва ў розных краінах, але час ад часу сустракаюцца, дзеляцца ўспамінамі, актыўна пішуць лісты. І лісты гэтыя — асобныя паэмы, у іх падрабязна адлюстроўваюцца падзеі беларускага жыцця ў Варшаве і Вільні, у якім абодва па магчымасці, калі дазваляе здароўе, удзельнічаюць. Часта бываю ў Мікалая Рулінскага і ведаю, якая яму радасць, калі атрымлівае ліст з Варшавы: "Я атрымаў ліст ад Янкі, ужо вывучыў на памяць".

Вось такая рэакцыя на весткі ад сябра. Гэта сяброўства — сапраўдны талент, якому трэба вучыцца, як і многаму ў таго пакалення, гэта гісторыя, якая побач з намі. Мяне такія сустрэчы акрыляюць надоўга, адорваюць дабром і святлом у паўсядзённым жыцці.

**Леакадзія МІЛАШ.**

## УКРАІНА

Дзень добры, паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

У рубрыцы "Адваротная сувязь" ("Г. Р." № 10) звярнула ўвагу на радкі В. Рамук з Чыкага. Паважаная чытачка выказвае свае слушныя меркаванні з нагоды пабудовы і зместу газеты, а ў канцы ліста піша: "Нам вельмі спадабаліся вершы "перaлётнай птушкі" — Іны Снарскай з Украіны".

Я дужа ўдзячная шаноўнай спадарыні Рамук, якая звярнула ўвагу на мае вершы ў № 4 ад 28 студзеня 1999 года і напісала добрыя словы. Вершы жывуць тады, калі іх чытаюць. Гэта вельмі важна для паэта, тым больш, калі жывеш у замежжы і нават сябры не заўсёды могуць зразумець прыгажосць тваёй роднай мовы.

Шчыры вам дзякуй, сястра з далёкай Амерыкі!

Гэта першая (заўважаная мной) зваротная рэакцыя на маю публікацыю ў "Голасе Радзімы". Вось яна, адваротная сувязь, працуе!

Буду шчыра ўдзячная рэдакцыі, калі вы знойдзеце магчымасць паведаміць мне адрас спадарыні В. Рамук. Хачу зрабіць ёй сюрпрыз (у выглядзе сваёй кніжкі "Пачакай, мая птушка...") Было б вельмі прыемна, каб мае "птушкі"-вершы чыталі і ў ЗША... Зычу ўсім шчасця і творчага плёну.

З павагай удзячная вам

**Іна СНАРСКАЯ.**

Палтава.

## АРГЕНЦІНА

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі "Голас Радзімы"!

Я, Сусанна Марыно, пішу вам з Аргенціны. Мы хочам адшукаць каго-небудзь з нашай вялікай дынастыі Махавікоў.

Мой дзядуля Іван Міньевіч Махавік прыехаў у Аргенціну да другой сусветнай вайны, тут ажаніўся, меў дзяцей і ўнукаў і тут, у Аргенціне, памёр. У яго была нязбытная мара — пабачыцца са сваімі блізкімі на радзіме. Мара не збылася. Але як цяпер у вас усё змянілася, то мы хочам выканаць волю дзеда — адшукаць каго-небудзь з вялікай радні і пабачыцца. Мы не ведаем, куды звяртацца, з чаго пачынаць, не маем ніякай інфармацыі аб установах, якія маглі б дапамагчы, і няма адрасоў, акрамя адзінай вашай газеты.

Пераканаўча просім дапамагчы, загадзя ўдзячная

**Сусанна МАРЫНО.**

***АД РЭДАКЦЫІ.*** Шаноўная спадарыня Марыно! Дзякуй Вам за цёплы ліст. Як паведаміў нам старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Аляксандр Міхальчанка, любы грамадзянін можа заказаць у беларускіх архівах даследаванне сваёй радаслоўнай. Для гэтага неабходна звярнуцца з лістом непасрэдна ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі па адрасу:

**Сп-ні Галубовіч А. К. (тэл. 268-65-20),**
**Нацыяльны гістарычны архіў Беларусі,**
**вул. Крапоткіна, 55,**
**г. Мінск, 220002.**
**Рэспубліка Беларусь.**

Там Вам растлумачаць умовы даследавання, тэрміны і кошт гэтай работы. Такім чынам, у Вас ёсць вялікі шанц, нават не пакідаючы Аргенціны, атрымаць з Беларусі поўную радаслоўную Вашай сям'і. Гэта, прынамсі, тычыцца кожнага нашага чытача.

## ЛАТВІЯ

Сябры праўлення беларускага таварыства "Уздым" —вучні беларускай нядзельнай школы і студэнты гуманітарнага факультэта Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта, якія вывучаюць беларускую мову, пабывалі ў Віцебску ў латышскай нядзельнай школе і ў Лужаснянскай гімназіі.

Гэта паездка — візіт у адказ пасля прыезду ў мінулым годзе ў Даўгаўпілс дзяцей і настаўнікаў латышскай нядзельнай школы і дырэктараў школ з Віцебскай вобласці.

Госці з Даўгаўпілса наведалі музей Марка Шагала, музей этнаграфіі і льну, манастыр у Оршы, дом-сядзібу Янкі Купалы ў Ляўках, паглядзелі спектаклі "Школа шутоў" у тэатры імя Я. Коласа і "Брэменскія музыкі" ў тэатры "Лялька".

У Віцебску даўгапілчан сустракалі консул Латвійскай Рэспублікі А. Крузе, старшыня Віцебскага раённага аддзела народнай адукацыі М. Антонаў, настаўніца латышскай нядзельнай школы В. Шпак.

Сябры рады таварыства "Уздым" таксама сустрэліся з намеснікам старшыні Віцебскага гарвыканкама Уладзімірам Кічыгіным, дзе абмяркоўвалі пытанні аказання дапамогі ў адкрыцці ў Даўгаўпілсе Цэнтра беларускай культуры. Спадар Кічыгін запэўніў, што такая дапамога беларусам Даўгаўпілса будзе аказана.

Уладамі горада Даўгаўпілса Цэнтр беларускай культуры ўжо зацверджаны, з боку Даўгапілскай гарадской думы на яго ўтрыманне выдзелена сем тысяч латаў на год (12,5 тысячы долараў). Каб гэта стала магчымым, нямала намаганняў прыклалі сябры "Уздыму" і супрацоўнікі Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе.

**С. ВАЛОДЗЬКА.**

КУЛЬТУРА

## 180 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Станіслава МАНЮШКІ



**Першага мая 1819 года ў фальварку Убель Чэрвеньскага раёна на Міншчыне нарадзіўся польскі і беларускі кампазітар, дырыжор і педагог Станіслаў Манюшка, аўтар "Рэкруцкага набору", "Галькі", "Ідыліі". Апошняя, дзякуючы выкарыстанню ў лібрэта беларускай мовы (побач з польскай) і апоры на беларускі музычны фальклор, мела вялікае значэнне. Асоба С. Манюшкі належыць да шэрагу найбольш адметных постацей музычнай культуры Беларусі.**

**Да юбілею С. Манюшкі ў Цэнтры імя Ф. Скарыны ў Мінску рыхтуецца спецыяльнае выданне — зборнік артыкулаў, прысвечаных жыццю і творчасці музыканта. Сёння мы прапануем чытачам "Голасу Радзімы" даследаванне вядомага спевака і "скарбашукальніка культуры" Віктара Скорабагатава. У матэрыяле распавядаецца пра адну з малавядомых старонак дзейнасці Станіслава Манюшкі.**



**Віктар СКОРАБАГАТАЎ.**

# ЗОРНЫ ТАНДЭМ
## ВІЛЕНСКАГА КАМПАЗІТАРА І ІТАЛЬЯНСКАГА СПЕВАКА

Як часта побач з вялікім майстрам-кампазітарам мы бачым імя вялікага майстра-выканаўцы. Бывае, выканаўцы раней за астатніх разумеюць і горача падтрымліваюць талент кампазітара. Успомнім: побач з Францам Шубертам стаіць імя Фогля, побач з Міхаілам Глінкам стаяць імёны Восіпа Пятрова і Тацяны Вараб'ёвай. Так было здаўна. У гісторыі мастацтва XX стагоддзя такім найбольш паказальным бачыцца садружнасць Бенджаміна Брытэна з Пітэрам Пірсам.

У гісторыі беларускага мастацтва, безумоўна, першым з зафіксаваных прыкладаў такой садружнасці з'яўляецца супрацоўніцтва кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага з італьянскім спеваком і кампазітарам Паліяні, які доўга жыў у Залессі і, бясспрэчна, быў першым выканаўцам вакальных твораў Арфея "Паўночных Афінаў".

Аднак, калі супрацоўніцтва Агінскага і Паліяні не выйшла за межы сядзіба-салонных вечарын, дык крыху пазнейшае па часе творчае супрацоўніцтва другога італьянскага спевака Ахілеса Юзафа (менавіта так звалі яго ў нашым краі) Банольдзі (1821—1871) з беларускімі кампазітарамі сярэдзіны XIX стагоддзя — Станіславам Манюшкам і Флярыянам Міладоўскім — насіла зусім іншы характар.

Сын "аднаго з самых славутых спевакоў часоў Расіні", па вызначэнні С. Манюшкі, італьянец па паходжанні, Джузэпэ Ахіл Эльміра Банольдзі нарадзіўся ў Іспаніі, у Барселоне. Адукацыю атрымаў у Лазанскім універсітэце (Швейцарыя), пасля заканчэння якога выбраў кар'еру музыканта. Вакальныя навыкі, трэба думаць, Ахіл набыў пад кіраўніцтвам бацькі, а майстэрства ігры на фартэпіяна спасцігаў пад кіраўніцтвам, ні больш, ні менш, Ферэнца Ліста.

Дваццацігадовым юнаком у 1842 годзе ён трапіў у Вільню, дзе захапіўся не толькі самім горадам, але яшчэ і закахаўся ў маладую дзяўчыну Леакадзію Багнеўскую, якая таксама пакахала прыгожага італьянца. Калі яны неўзабаве пажаніліся, здавалася, Ахілес застанецца ў Вільні назаўсёды. Хутка ён авалодаў мясцовай гаворкай і ўключыўся ў музычнае жыццё беларускай краёвай сталіцы. Зарабляў тым, што выкладаў музычныя прамудрасці слухачам Віленскага шляхетнага інстытута, а ў вольны час спяваў, спяваў... У асноўным гэта былі творы Манюшкі і іншых мясцовых кампазітараў.

У канцы 1857 года, напярэдадні пераезду ў Варшаву Станіслава Манюшкі, віленскія прыхільнікі яго таленту арганізавалі канцэрт у гонар кампазітара. "У праграму канцэрта былі ўключаны "Лірнік вясковы" на верш Уладзіслава Сыракомлі. Песню выконваў тады Ахілес Банольдзі, вакальную культуру якога кампазітар ставіў вельмі высока. Яшчэ ў лютым 1849 года, даючы аўтарскія канцэрты ў Пецярбургу, Манюшка звязваў свае надзеі на поспех з выканаўчай манерай Банольдзі. І поспех прыйшоў, нягледзячы на тое, што імя віленскага кампазітара ў Пецярбургу ведалі толькі лічаныя аматары музыкі. Манюшка дзякаваў лёсу, які звёў яго з Банольдзі. Спявак і кампазітар моцна сябравалі. Чуццём артыста Банольдзі ўлоўліваў у творах сябра тое, што многія пачалі разумець і цаніць праз некалькі гадоў. Не выпадкова Манюшка прысвяціў спеваку оперу "Галька". Апрача оперы — яшчэ і сем рамансаў: на вершы Яна Чачота ("Праснічка", "Салоўка"), Эдварда Жалігоўскага ("Мелодыя"), Стэфана Вітвіцкага ("Ад'езд", "Гулянка"), а таксама дзве песні на вершы Вальтэра Скота з ягонай "Азяровай дзяўчыны" ў перакладзе на польскую Антона Адынца (адзін з твораў Манюшка прысвяціў і жонцы Ахілеса — Леакадзіі Багнеўскай). А ў лютым 1851 года кампазітар напісаў песню "Pelligrina rondinella" на вершы самога Ахілеса Банольдзі. Зрэдку спявак і сам пісаў музыку. У 1874 годзе пецярбургскі нотавыдавец Юргенсон, рэкламуючы III серыю "Найлучших романсов и песен", сярод іншых прапануе песню Банольдзі "Стары капрал" на вершы П. Ж. Беранжэ.

Як вядома, партыю Ёнтака ў "Гальцы" павінен выконваць тэнар, але ў Вільні, дзе адбылася прэм'ера першай двухактовай рэдакцыі оперы, Манюшка, нікому не давяраючы, акрамя Банольдзі, выпісаў партыю Ёнтака ў разліку на Ахілесава выкананне, гэта значыць, барытона. Пазней Банольдзі пераклаў лібрэта оперы на італьянскую мову, чым вельмі паспрыяў распаўсюджванню "Галькі" па сцэнах Італіі. Гэта быў не адзіны выпадак, калі Банольдзі перакладаў вершаваныя тэксты Манюшкавых твораў. Так, адна з мес на вершы Антона Адынца была перакладзена спеваком на лацінь.

Вось як ацаніў кампазітар працу Банольдзі ў лісце да нотавыдаўца і рэдактара часопіса "Рух музычны" Юзафа Сікорскага: "Нашы сумленныя аркестровыя музыканты, царкоўныя пеўчыя, колькі аматараў, аб'ядноўшыся ў трупу, лікам звыш сарака чалавек, старанна і чулліва дапамагалі мне да канца з усё ўзрастаючым па меры прыязнасці выкананнем справы і ганарыліся тым, што будуць спрыяць выкананню майго сачынення, чым толькі змогуць. Колькі ў мяне было працы, гэта толькі магчыма апісаць на былай скуры. І загінуў бы я дакладна, калі б не знайшоў у Банольдзі больш, чым роднага брата: ён усяляк дапамагаў мне — рыхтаваў з выканаўцамі сольныя і некаторыя харавыя партыі, сам спяваў партыю Ёнтака, якая, як гаворыць мне сэрца аўтара, ніколі не будзе выканана лепей".

Колькі разоў у лістах Манюшкі згадваецца Банольдзі! "Як гаворыць Ахілес...", "Паспытай Банольдзі, бо ён лепей ведае...", "Банольдзі мне казаў..." і гэтак далей. Вось прыклад такога прыхільнага стаўлення да спевака з боку кампазітара. У лісце ад 15 чэрвеня 1858 года з Парыжа Манюшка піша жонцы: "...Першы і другі раз Ліст іграў два паланезы, мазура з "Галькі" і Гуральскія танцы ў чатыры рукі са спадарыняй Калергіс... Нягледзячы на белыя валасы, што надзвычай дзівосна спадаюць яму на плечы, малады энтузіязм захаплення мастацкімі творамі яго не пакінуў. Толькі што, бядак, іграць развучыўся і часта густа губляе фурманку (спытай Банольдзі, што гэта азначае, і скажы яму, што я яго найчулліва абдымаю, што дзякую яму за перакладчыцкую працу; што ўся найбольшая карысць, якую спадзяюся атрымаць з вандроўкі, будзе набыццё ўмацавання таго вышэйшага ў сабе пераканання, якое заўсёды меў пра яго артыстычнае выкананне. Скажы яму таксама ясна: няхай фартуну за вакно не выкідвае, а намагаецца так уладкавацца ўсё, каб мог абавязкова перабрацца ў Варшаву. Гэта мае нязменнае разуменне яго ягонай будучыні, а спазненне невыказна мучыць мяне... Дадам, што пра Банольдзі, свайго вучня, Ліст памятае...)".

Дарэчы, рэдактар "Сабраных лістоў" Станіслава Манюшкі — выданне, на якое мы абапіраемся, — дык вось, рэдактар "Лістоў" Вітольд Рудзінскі адзначае ў каментары да гэтага месца: "Гублям фурманку (спытай Банольдзі, што гэта азначае...) — гэта значыць гублям рытм" (ці нітку сюжэта, уток. — **Я. Янушкевіч**). І далей: "Банольдзі, які спазнаў польскую мову толькі ў Вільні, вельмі захапляўся каларытнымі правінцыйнымі (гэта значыць беларускімі. — **В. С.**) выказваннямі, пра што сведчаць ягоныя лісты". Ад сябе дадамо — і "Лісты" Манюшкі таксама.

Пра тое, што Банольдзі цікавіўся не проста мясцовым жыццём, а ў самым шырокім сэнсе культурай беларусаў, сведчыць рэцэнзія Манюшкі ў часопісе "Рух музычны" (ад 2 красавіка 1857 года, № 5) з Вільні пра канцэрт, што адбыўся 3 сакавіка і ў якім прымаў удзел Ахілес Банольдзі: "...На заканчэнне пан Банольдзі (артыст, настаўнік спеваў, які больш чым дзесяць гадоў таму асеў у Вільні) спяваў "Мацька", песню Манюшкі ў суправаджэнні аркестра, спяваў яе як заўсёды — па-майстэрску. Недарма я распісваў бы, жадаючы падаць хоць нейкае ўяўленне аб заслугах гэтага артыста: яны не стасуюцца пад анiякую рубрыку штодзённых музычных клопатаў... Хто чуе яго — адразу цэніць і шануе. Тым, хто пачуць яго не мае магчымасці, альбо і тым, хто няўважна слухае, няхай будзе дазволена звярнуць увагу, што, калі сёння нас вабяць чары італьянскай музыкі, Банольдзі прысвячае сябе выключна збіранню таго, што годна быць узятым, але раскінута па нашай зямлі. Гэта таксама і вельмі працаёмка!".

На пачатку 1850-х гадоў Манюшка і Банольдзі кожнае лета ездзілі ў Друскенікі, аднак не дзеля паляпшэння стану здароўя — кампазітар "і там аддаваў увесь свой час канцэртам, якія наладжваў, для наведвальнікаў курорта, разам з Банольдзі".

У 1854 годзе сябры заснавалі ў Вільні таварыства св. Цыцыліі, паставіўшы мэтаю выхаванне ў віленчукоў мастацкага густу праз выкананне найлепшых твораў рэлігійнай музыкі. Меладся на ўвазе выкананне хаця б двух канцэртаў у сезон. Болей за тое — Манюшка спадзяваўся стварыць выдавецтва, якое б друкавала рэлігійныя творы. На жаль, гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся, і зборнік "Песні нашага касцёла", складзены кампазітарам падчас працы арганістам касцёла св. Яна ў Вільні, ён выдаў толькі ў Варшаве.

Час раскідаў па свеце сяброў. Манюшка з'ехаў у Варшаву, Міладоўскі — у Францыю. Банольдзі застаўся ў Вільні. Лісты да Станіслава падпісваў не ўласным імем, а крыптаграмай "Ёнтак, Мацек, Лірнік" — імёнамі найбольш удалых, як было прызнана кампазітарам, герояў Манюшкавых твораў.








***На здымках:*** Станіслаў МАНЮШКА; мемарыяльная дошка на будынку былой гімназіі; гімназія ў Мінску, дзе вучыўся будучы кампазітар; дом у Мінску, дзе жыў С. Манюшка.

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.*







Ірына ЦІШКЕВІЧ не проста прыгожая жанчына. Яна актрыса, іграе ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Я. Коласа. Нядаўна ў яе жыцці адбылася значная падзея. Яна дэбютавала ў спектаклі "Пісьменныя". Мяркуючы па водгуках гледачоў, дэбют атрымаўся ўдалым. Гэта тым больш прыемна, бо Ірына сёлета заканчвае першы курс Беларускай акадэміі мастацтваў. Так што яе лепшыя ролі, яе трыумф — наперадзе. Ірына Цішкевіч ніколі не сустракалася з Віктарам Вінярскім, які жыве ў Рэчыцы. Але іх аб'ядноўвае імкненне да самавыяўлення ў творчасці. Віктар — мастак. Ён піша пейзажы, партрэты. А працуе ў Рэчыцкім упраўленні тэхналагічнага транспарту мастаком-афарміцелем. Што ж, калі ёсць маладыя людзі, якія хочуць ствараць нешта ў мастацтве, гэта ўсяляе надзею, што будзе дзень, а ў ім будзе радасць.



# «СЛОВА, У ДУШЫ НАРОДЖАНАЕ, І Ў ПРАХ ЖЫЦЦЁ ЎДЫХАЕ»

Атрымаўшы чарговы нумар "Літаратуры і мастацтва", я найперш занырнуўся на загалоўку артыкула народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча "Чакаў. Спадзяваўся. Верыў. І — недарэмна".

Як вядома, асноўны пафас паэтычных і публіцыстычных выступленняў пісьменніка апошніх гадоў — лёс Беларусі, страсная вера і жаданне бачыць яе незалежнай, шчаслівай і паважанай у агульначалавечай супольнасці краінай. Менавіта ў кантэксце гэтай па-купалаўску турботнай думкі Грамадзяніна і Творцы ўспрыняўся згаданы загаловак. Аднак вынесеная на першую старонку тыднёвіка цытата: *"Кожны сур'ёзны мастак звяртаецца да далёкай ці не так далёкай мінуўшчыны не таму, што ў тым пражытым і перажытым задоўга да нас ёсць шмат уражлівага, інтрыгоўнага, незвычайнага, а перш за ўсё таму, што тое даўняе дапамагае лепш зразумець няпростае сучаснае, лёс асобнага чалавека і ўсяго народа..."* — сведчыла, што тэма выступлення абмежавана творчымі пытаннямі. Але гэта яшчэ больш падахвоціла прачытаць матэрыял, бо ўжо даўнавата не выказваўся пісьменнік у друку па літаратурных праблемах. Н. Гілевіч засяродзіўся на нядаўна надрукаваным у часопісе "Маладосць" творы маладога аўтара. Ацэнка была высокай, нават узнёслай: *"Генадзь Аўласенка апублікаваў "Грунвальдскую баладу" — па сутнасці невялікую паэму гістарычна-легендарнага зместу і характару. На маё перакананне, гэта выданы паэтычны твор. Можна сказаць: з'ява ў нашай сучаснай паэзіі. Само сабой — значны, рашучы крок наперад у творчым самастанаўленні аўтара. Пасля вядомых балад-легенд У. Караткевіча ("Машэка", "Балада пра паўстанца Ваўкалаку", "Паўлюк Багрым", "Чорная балада Гаркушы") такой паэтычнай сілы твораў у гэтым жанры я не чытаў".*

У такім жа духу быў напісаны ўвесь матэрыял, і, суаднёсшы яго з тэкстам трыпціха, падумаў, а ці не перахваліў Маэстра аўтара, ці паспрыяе такая ацэнка навырост яго творчаму сталенню? Бо ці ж не вядомыя выпадкі, калі ў літаратурных маладзёнаў нечакана пачынала кружыцца галава ад "славы" і яны, замест таго каб развіваць і ўдасканальваць свой талент, растрачвалі яго на пустыя, далёкія ад сапраўднай паэзіі рэчы. Дык хто ж ён, пакуль што невядомы мне Аўласенка?

Патэлефанаваў Нілу Сымонавічу. Высвятлілася, што з Генадзем ён асабіста не знаёмы. Тады я набраў Чэрвень, назваўся і адразу ж пацікавіўся ў Генадзя Пятровіча, як ён успрыняў артыкул у "ЛіМе". Той адказаў, што пра публікацыю ўпершыню ад мяне чуе. Я здзівіўся: няўжо ні адна з чатырох чэрвеньскіх школ, ніводная бібліятэка і музей не выпісваюць "ЛіМ"?

Сутыкаешся з падобнымі пытаннямі, і апаноўвае роспач. Мабыць, гэта паўплывала на мой настрой, бо гаворкі, на якую разлічваў, не атрымалася. Даведаўся ад Генадзя, што ягоны здымак можна ўзяць у "Літаратуры і мастацтве". Размаўляю з загадчыцай аддзела рэдакцыі, паэткай і драматургам Галінай Каржанеўскай. "Вельмі ціплы, — кажа яна, — проста наўздзіў ціплы на фоне некаторых прабіўных і настырных. У яго несапсаваная, я б сказала, чыстая дзіцячая душа. Раю яму: пачаў бы ты, Генадзь, пісаць вершы для дзяцей. Пабачыш:

(Заканчэнне на 15-й стар.).

## ГРУНВАЛЬДСКАЯ БАЛАДА

ТРЫПЦІХ



Генадзь АЎЛАСЕНКА

I

— Груганы ляцяць, груганы!
Крумкачы крычаць, крумкачы!
Да вайны крычаць, да вайны...
— Памаўчы, сынок, памаўчы!
— Ды чаму ж мне трэба маўчаць?!
Чуеш, як бразгочуць мячы?!
Чуеш, як удовы крычаць?!
— Памаўчы, сынок, памаўчы!
Хіба што залежыць ад нас,
Акрамя нашых горкіх слёз?
Гэта час такі, гэта час...
Гэта лёс такі, гэта лёс...
— Каб хутчэй я вырасці змог,
Не крычалі б тут крумкачы!
— Бараніць цябе, сынку, Бог!
Памаўчы, сынок, памаўчы!
Каб не плакаць мне па начах,
Каб цябе, сынок, зберагчы...
Не аддаць цябе крумкачам...
Памаўчы, сынок, памаўчы!
— Каб хутчэй я вырасці змог,
Я б пазбавіў цябе ад слёз!
— Гэта час такі, мой сынок...
Гэта лёс такі, гэта лёс...
Ты расці, сынок, ты расці...
Хай бяда цябе абміне...
Што пабачыла я у жыцці?!
Ты адзін, сынок, у мяне!
— Груганы ляцяць, груганы!
Крумкачы крычаць, крумкачы!
Да вайны крычаць, да вайны...
— Памаўчы, сынок, памаўчы...
— Ды чаму ж мне трэба маўчаць?!
Мама! Мама! Сюды зірні!
Бачыш — нават хаты крычаць!
У агні крычаць, у агні!
Мама, бачыш, там, ля акон...
Мама! Мама! Гэта вайна!
— Гэта сон, сынок, гэта сон...
Адыдзі, сынок, ад акна...
Падыдзі, сынок, да мяне
І не плач, сынок, не дрыжы...
— Ды хіба ж так бывае ў сне?!
Мама! Мамачка! Адкажы!
Мама! Мамачка! Гэта бой!
Чуеш, як бразгочуць мячы?!
— Я з табой, сынок, я з табой...
Памаўчы, сынок, памаўчы...
Абдымі мяне... Абдымі...
І бывай... сынок... І бывай...
— Мама! Мама! Усё ў агні!
Мама! Мамачка! Уставай!
— Пачакай, сынок, пачакай...
— Мама! Мамачка! Не маўчы!
— Уцякай, сынок, уцякай...
Паспрабуй, сынок, уцячы...
— Мама! Мамачка! Не ляжы!
Што за людзі там, на дварэ?!
На накідках у іх крыжы...
— Не згары, сынок, не згары...
— Мама! Мамачка! Не ляжы!
Мама! Мамачка! Не маўчы!
Ну хоць слоўца яшчэ скажы!
— Паспрабуй... сынок... уцячы...
Хай табе дапаможа Бог,
Калі — ён разлучае нас...
Зберажы сябе, мой сынок...
Гэта час такі... Гэта час...
— Мама! Мамачка! Не маўчы!

А ў самотным небе вайны —
Крумкачы крычаць, крумкачы...
Груганы ляцяць, груганы...

II

Сёння час надышоў плаціць!
Колькі можна крыўды лічыць?!
...Над зямлёю коннік імчыць...
Без шляхоў імчыць, без дарог...
Сонца бліскае на мячы...
— Я збярог сябе, я збярог!
Каб адпомсціць вам, крумкачы!
Каб адпомсціць вам, крыжакі!
Каб за ўсё трымалі адказ!
Гэта дзень надышоў такі!
Гэта час такі, гэта час...
Гэта час такі, крумкачы!
Сёння ваша чарга плаціць!
Сёння нас рассудзяць мячы!
...Над зямлёю коннік ляціць...
— Мама! Мама! Чуеш ці не!
Там, ля райскіх сваіх варот...
Ці пазнала б цяпер мяне?!
Колькі год прайшло... Колькі год...
Я дапоўз тады да ракі...
Я паспеў, я змог уцячы...
Каб адпомсціць вам, крыжакі!
Каб адпомсціць вам, крумкачы!
Я не ведаю: сам ці Бог,
Хто ж тады ўратаваў мяне?
Я для помсты сябе збярог!
Мама! Мама! Чуеш ці не?!
Колькі год я помсту нашу,
Але вось надыходзіць час!
Сёння я адвяду душу...
За цябе, за сябе, за нас,
За ўсіх тых, хто там, у зямлі,
Ад мячоў крыжацкіх ляжыць...
Колькі год мы з крыўдай жылі!
Можа, годзе нам з крыўдай
жыць?!
Можа, годзе крыўды лічыць?!
Можа, час надышоў плаціць?!
...Над зямлёю коннік імчыць...
Над зямлёю коннік ляціць...
Срэбны коннік і срэбны конь...
Сонца бліскае на мячы...
Мама! Той смяротны агонь
Больш не будзе цябе пячы!
Я крывёй яго затушу!
Загаю я раны твае...
Колькі год я помсту нашу...
Сёння я адвяду душу...

...Над Грунвальдам сонца ўстае...

III

Пераможныя б'юць званы...
Гэта дзень, гэта час такі!
Разлятаюцца груганы,
Разбягаюцца крыжакі...
Вечар сцелецца па траве...
Дагарае, сціхае бой...
Маці зверху сына заве:
— Дзе ж ты, дзе ж ты,
сыночку мой?!
...Вецер сцелецца па траве,
Зорка першая зіхаціць...
Лёгкай хмаркай маці плыве...
Белай птушкай маці ляціць...
— Дзе ж мне, сынку,
цябе знайсці?!
— Дзе ж мне, сынку,
цябе знайсці?!
Сынку! Сынку! Чуеш ці не?!
Што пабачыла я ў жыцці?
Ты адзін, сынок, у мяне!
Не ляжы, сынок, не ляжы!
Не маўчы, сынок, не маўчы!
Ну хоць слоўца, сынок, скажы...
Колькі ж мне шукаць уначы!
Месяц срэбраны, пасвяці,
Разагрні туман у бакі!
Дзе ж мне, сынку, цябе знайсці?!
Што за час, што за час такі?!
Толькі зло вакол, толькі зло...
Вінаватыя без віны,
Колькі ж, колькі ж вас
тут ляглo?!
І ўсе вы чыесьці сыны!
Ну за што, за што вы ляглі?!
Адкажы, сынок, не маўчы!
— Мы ляглі, каб нашай зямлі
Не чапалі больш крумкачы!
Сёння мы яе зберaглі,
Каб яна праз вякі жыла...
Тут не толькі мы палеглі —
Тут крыжацкая моц ляглa!
Тут паганыя крыжакі
Паспыталі нашых мячоў!
Тут на цэлых на тры вякі
Мы адвадзілі крумкачоў!
Мама! Мама! Не трэба слёз
Над забітымі праліваць!
Гэта лёс такі, гэта лёс...
І не трэба нас шкадаваць!
Мама! Мама! Не дакарай,
Што сябе зберагчы не змог!
Зберагаючы родны край,
Я ў зямліцу сырую лёг...
Мама! Чуеш, як б'юць званы?!
Мы загінулі не дарма!
— Мой сыночку, тваёй віны
Ні адзінай кроплі няма...
— Мы адолелі крыжакоў!
Больш ім нашых хат не паліць!
— Ну а мне да скону вякоў
Слёзы горкія, сынку, ліць...
Над зямлёю хмаркай плысці
Ды слязьмі яе паліваць...
Мне на небе, як і ў жыцці,
Над табой, сынок, гараваць...

Ноч зваліласся ды ў траву...
Зоркі-зорачкі зіхацяць...
Маці-хмаркі ў небе плывуць...
Маці-птушкі ў небе ляцяць...
— Ох, сынкі, сыночкі, сыны!
...Ды маўчаць сыны,
не ўстаюць..
Б'юць званы...
Толькі б'юць званы...
Па сынах, што загінулі,
б'юць...

НОВЫЯ ІМЁНЫ

*Уладзімір Васількоў*



## ЛІРЫКА

### «Я СПАДЧЫНАЙ СВЯТОЙ НЕ БЕДНЫ...»

***Уладзіміру Васількову чатырнаццаць. Але як страсна гучыць ягоны паэтычны голас!***

***Душа паэта працуе ў часе, спрыяльным для філасофскага абагульнення гістарычнай спадчыны Беларусі, усведамлення нацыянальнай годнасці маладога пакалення. Напрыканцы стагоддзя раскрываюцца для ўсіх нас старонкі росквіту і заняпаду духоўнасці чалавека.***

***Валодзя нарадзіўся і жыве ў Мінску, аднак родную мову засвоіў з маленства. Яму вядома, што ў параўнанні з іншымі мовамі свету, беларуская — напеўная і гаючая, светлая і чароўная! Нельга выракацца яе, як неацэннай спадчыны.***

### АДКРЫЦЦЁ

Фантазія,
Рэальнасць,
Ілюзорнасць...
Паэзія,
Чароўнай музы свет...
Жыць на зямлі
Натхнёна,
Светла,
Зорна,
Пакуль ёсць Бог,
Радзіма
І паэт!

### ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Ноч палымянаю какеткай
Будзіла ў зорах цішыню.

Глянь, расцвіла царыца-кветка!
...А ты не верыла агню.

"Ілюзія!" — жартуе хтосьці.
Жартоўных слоў не прызнаю,

І сэрцам, поўным маладосці,
Я веру ў красачку сваю!

### САФІЙСКІ АРГАН
*Трыялет*

Пакутуе душой арган
Сафійскі —
Не заціхае боль маёй душы.
Тут мроіцца Рагнеда ля
калыскі...
Пакутуе душой арган
Сафійскі —
Святыя лікі, княжыя крыжы...
Шлях да святыняў скрадзеных —
няблізкі...
Пакутуе душой арган Сафійскі,
Не заціхае боль маёй душы.

### БЕРАГ БЕЛЫХ БУСЛОЎ

*Уладзіміру Караткевічу*

За што люблю цябе, мая
Радзіма?
За тое, што мяне ты нарадзіла.

У час, калі навалы адплылі,
Няма духоўнай смерці на зямлі.

# ЧЫСТЫ ДАР САШЫ ЧАРКАСА

*Дзіўная рэч: раз-пораз падчас размовы мне чамусьці хочацца назваць яго Аляксандрам, звярнуцца да яго на Вы... А яму ж толькі трынаццаць — Сашу Чаркасу, школьніку з Пінска. З выгляду — зусім хлапчук, усмешлівы, спакойны і крышачку ўпарты. У ім адчуваюцца прыродная далікатнасць, добрае выхаванне і — ніякай хваравітай "зорнасці". Тым часам журналісты называюць яго "пінскім салоўкам", "палескім золатам", "беларускім Раберціна Ларэці": у Сашы Чаркаса цяпер і сапраўды "зорная гадзіна"!*

● **Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

ШМАТ чаго ў гэтым свеце складваецца з выпадковасцей, і ўсё ж я думаю, што дар Божы выпадкова не даецца. Саша нарадзіўся ў сям'і з моцнымі "музычнымі генамі". Прынамсі, абедзве бабулі добра спявалі. Маці — піяністка, выкладае ў музычнай школе; бацька — баяніст, працуе ў той самай школе дырэктарам. Вышэйшую музычную адукацыю атрымалі і два Сашыны старэйшыя браты. Сам ён з ранняга ўзросту прыахвоціўся слухаць гармонію гукаў: маці надзявала паўгадаваламу малечы навушнікі, уключала музыку і ўжо магла, не турбуючыся за дзіця, завіхацца па хатніх справах.

А далей? Далей усё было, як і ў многіх даравітых дзяцей: эстэтычны цэнтр, музычная школа, першыя публічныя выступленні. Удзельнічаць у канцэртах Саша Чаркас пачаў яшчэ шасцігодкам, так што "спеўны стаж" у яго салідны. І пазначаны лаўрамі многіх нацыянальных ды міжнародных песенных спаборніцтваў і фэстаў. Сярод іх — "Залатыя ключы", "Усе мы родам з дзяцінства", "Зямля пад белымі крыламі", "Беларусь — мая песня"... Летась ён паспяхова выступіў на вядомых фестывалях "Славянскі базар" і "Залаты шлягер", у папулярнай маскоўскай тэлепраграме "50х50". Урэшце, атрымаў рэкамендацыю аргкамітэта міжнародных курсаў юных вакалістаў у Новай Сусветнай школе мастацтваў (ЗША) — для праходжання інтэнсіўнай стажыроўкі ў Маямі.

Паспяховае заканчэнне гэтых курсаў гарантуе магчымасць запісвацца на ўсіх прэстыжных студыях свету, забяспечвае працяг прафесійнага навучання. Ах, які шанц! Вось толькі... Каб скарыстаць яго, трэба заплаціць за навучанне ў Амерыцы 15 тысяч долараў. Сума фантастычная! Саша Чаркас як стыпендыят Фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі атрымаў свае шэсць мільёнаў рублёў ды патраціў іх на паездку ў Маскву, каб паўдзельнічаць у праграме "50х50"...

Дзяржава на долары небагатая, ды і спонсары не спяшаюцца са сваёй дабрадзейнасцю. Між тым, людзі дасведчаныя сцвярджаюць, што за мяжой адукаваныя мецэнаты і розныя дабрачынныя фонды кінуліся б навыперадкі, каб падтрымаць-"раскруціць" гэткі рэдкі талент!

"ВЯДОМА-ВЯДОМА, — скажа хтосьці. — Дзіцячы голас ужо сам па сабе выклікае замілаванне. А калі яшчэ ўбачыш, як абаяльная малеча спявае з мікрафонам у руках, ды на вялікай сцэне, ды пад салідны акампанемент... Але ж вунь колькі ў нас юных "зорак"! Маэстра Фінберг разам са сваім знаным калектывам для іх другі год запар адмысловы фестываль ладкуе: "Спяваем з аркестрам..."

Сапраўды, яскравая праграма з удзелам каля чатырох дзесяткаў даравітых дзяцей, якія спяваюць пад вялікі "жывы" (ніякіх фанаграм!) аркестр, — уражвае і кранае. Ды ўсё ж... Агульнае захапленне, якое панавала ў зале падчас сёлетняга фестывалю беларускай дзіцячай эстраднай песні, не замінала вылучаць сярод яго сімпатычных, жвавых, артыстычных удзельнікаў — "пінскага салавейку". Саша Чаркас быў адзіны, хто апроч выбітнага таленту паказаў і сур'ёзную вакальную школу, і высакародную культуру выканання эстраднай песні, і пачуццё ўласнай годнасці ў манеры трымацца на сцэне.

Плаўная кантылена, лёгкая прыгожая фразіроўка, чысцюткае ўзыходжанне да высокіх нот, нязмушаныя крашчэнда і ферматы... Проста прыгожы, можна сказаць, эталонны спеўны гук!

МНЕ пашанцавала патрапіць на выступленне Сашы Чаркаса падчас "Лютаўскіх музычных вечароў" — традыцыйнага пінскага фестывалю. Яго сольная праграма доўжылася 45 хвілін і ўключала творы Баха, Пергалезі, Вівальдзі, Моцарта, Шуберта, рускія рамансы, папулярныя неапалітанскія песні. Удзельнічаў ён і ў другім аддзяленні канцэрта — своеасаблівай аўтарскай вечарыне кампазітара Аляксандра Літвіноўскага, які прыехаў з Мінска на гэтую творчую імпрэзу і перажыў не толькі хвіліны радасці і ўдзячнасці выканаўцам, а і ўзрушальны момант адкрыцця.

Калі сустракаюцца два таленты — гэта цікава і публіцы, і самім творчым асобам. Аляксандру Літвіноўскаму, чыю музыку ведаюць у еўрапейскіх краінах, падалося надзвычай свежым і выразным выкананне юнага спевака, узнікла нават ідэя напісаць штосьці адмысловае для непаўторнага анёльскага голасу. Аляксандр Чаркас, чый рэпертуар складаецца з самых розных твораў — ад шлягераў да ўзораў сусветнай класікі, — у ахвотку працаваў над музыкай свайго земляка і сучасніка. Фрагменты з кантаты "Stabat Mater" (тэкст кананічны) у суправаджэнні аргана і партыю сапрана сола ў кантаце "Да Маці Божай" (тэксты з беларускага малітоўніка, складзенага ксяндзом Адамам Станкевічам) ён вывучыў хутка, з прыемнасцю, натхнёна выканаў. І — гатовы да выканання новых сур'ёзных твораў.

Саша надзвычай кемлівы, працавіты, ад спеваў не стамляецца, любіць публіку... У Ларысы Праскурнінай, педагога па класу вакала, праблем з такім вучнем амаль няма. Ёсць толькі клопат: памагчы прафесійнай парадай, своечасова падхапіць і засвоіць удалую выканальніцкую знаходку. І не пашкодзіць унікальнаму дару. Асабліва цяпер, калі для хлапечага голасу надышоў крытычны час.

ТОЛЬКІ трынаццаць гадоў? Ужо — трынаццаць! Для голасу гэта ўжо ўзрост. І ніхто не ведае, колькі яшчэ давядзецца Сашу спяваць непаўторным дзіцячым тэмбрам. І ніхто не параіць, варта працягваць заняткі спевамі падчас мутацыі ці не... Але кожны, каго талент Аляксандра Чаркаса наводзіць на ўспамін пра феномен Раберціна Ларэці, разумее: нават калі пінскаму самародку будзе наканавана дарослая пеўчая кар'ера, пачынаць яе давядзецца з нуля. Таму трэба спяшацца рэалізаваць яго цяперашні дар як мага паўней, каб і сучаснікі парадаваліся, і для будучыні захаваліся дыскі, відэастужкі.

Сёння ён заняты, як мала хто іншы. "У яго столькі сяброў, але сябраваць няма калі", — уздыхае маці. Дзіва што! Тут і запрашэнне выступіць на міжнародным фестывалі музыкі ў Полацкім Сафійскім саборы, і паўдзельнічаць у журы конкурсу юных выканаўцаў на "Славянскім базары", і далучыцца да тэлемарафона з нагоды чарговай чарнобыльскай даты... Словам, планаў багата да самай восені.

А нядаўна Сашу Чаркаса пачалі запрашаць на запісы ў фонд Беларускага радыё. Пакуль фіксуецца тое, што ёсць у яго рэпертуарным актыве. Але ўсялякая творчая праца спараджае новыя ідэі. І, упершыню завітаўшы ў студыю разам са сваім канцэртмайстрам Ларысай Блізнюк, юны спявак неўзабаве пазнаёміўся са сталічнымі музыкантамі, а ў выніку з'явілася "Ave Maria" Шуберта ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра, папулярныя неапалітанскія песні ў суправаджэнні камерна-інструментальнага ансамбля Дзяржтэлерадыё Беларусі...

НЕЯК зазірнула ў Дом радыё і я, зацікавілася, як жа ідзе праца ў студыі. Ашаломленая, прабыла там некалькі гадзін. Голас хлопчыка гучаў чыста і нязмушана, з незнаёмай глыбінёй, зачароўваў, як выключная прыродная з'ява. Ёсць спрактыкаваныя артысты, якія пішуць свой рэпертуар у некалькі прыёмаў: здараецца, адзін раманс за цэлы тыдзень. Саша можа працаваць без дубляў: іх рабілі хутчэй з-за хібаў у акампанеменце...

У ПРЫАДЧЫНЕНЫЯ дзверы апаратнай зазіралі людзі: "Дзе гэта вы такога хлопца знайшлі?! Ён жа нават лепш за Раберціна! Які ў яго дзівосны срэбразвонны тэмбр!" Хто меў час, заставаўся і слухаў, як пад гіпнозам. А калі музыканты выходзілі са студыі на перапынак, у гамонцы сталых людзей чулася шчырае здзіўленне: "Колькі гляджу на саліста нашага, не бачу, як ён працуе: ніякіх высілкаў! Здаецца, што проста стаіць... і спявае! Як птушка..."









*На здымках: падчас выступлення; Саша ЧАРКАС са сваім педагогам Ларысай ПРАСКУРНІНАЙ; пасля канцэрта; з маці, канцэртмайстрам і педагогам.*



ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА




**Ш АЎКОЎНІЦА**

Шаўкоўніца,
Шыкоўніца
Квітнела,
Шыкавала,
Шаўковыя,
Шырокія лісты —
Свой шоўк —
Снавала.

Шаўкоўніцы,
Шыкоўніцы
Лістамі
Былі рады
Шматлікія
Рухавыя
Малыя
Шаўкапрады.

**Э ЎКАЛІПТ**

Эх, вялізны,
Эх, прыгожы
Эўкаліпт
Дзівосны,
Зелянее
На прымор'і
Стройны
і высозны.

**Ю ЗАФАЎ ВЯЗ**

Вёскай хто едзе,
Убачыць ураз
Надпіс на дрэве:
"Юзафаў вяз".

Юзаф пакінуў
Свой след,
Тут жыў,
"Юзафаў вяз" —
Юзаф вяз
Садзіў.

Юзаф сканаў —
Не пайшоў
У нябыт,
Юзафаў вяз,
Як ён сам,
Не забыт!

**Я СЕНЬ**

Ранкам
Ясень
Ясь садзіў,
Ясень
Хораша
Паліў.
Цёплы
Весні дзень
Яснеў,
Ясеў
Ясень
Заквітнеў.

## ЗАГАДКІ

**ШТО ЗА ЗВЯРОК?**

Даўгавухі ён
Звярок,
Нясмелы,
Летам шэры,
А зімою — белы.

**ХТО ГЭТА?**

У яе
Такія вочы:
Днём сляпая,
Бачыць — уночы.

# АПОВЕСЦЬ МІНУЛЫХ ГАДОЎ

## І паўстаў род на род

*У год 6367 (859).*

Варагі (варагамі на Русі называліся скандынаўскія купцы і воіны) з-за мора бралі даніну з чудзі, славян, меры і з усіх крывічоў. А хазары бралі з палян, северян і вяцічаў па срэбнай манеце і вавёрцы ад дыма.

*У год 6370 (862).*

Прагналі варагаў за мора, не далі ім даніну. Сталі самі над сабой уладарыць. І не было праўды, паўстаў род на род. Разгарэлася міжусобіца, пайшлі ваяваць адны на адных. І сказалі тады:

"Пашукаем сабе князя, каб уладарыў над намі і судзіў па праўдзе".

Пайшлі за мора да варагаў. Тыя варагі называліся русcю, а другія — свеямі, яшчэ адны — нарманамі і англамі, а іншыя — готамі; вось так і гэтыя называліся. Сказалі ім чудзь, *славяне*, крывічы і весь:

*"Зямля наша вялікая і багатая, а парадку няма. Прыйдзіце княжыць і ўладарыць над намі".*

І згадзіліся тры браты са сваімі родамі. Узялі з сабою ўсю русь і прыйшлі. Старэйшы — Рурык — сеў у Ноўгарадзе. Другі — Сінявус — на Белавозеры. А трэці, Трувар, — у Ізборску. Ад гэтых варагаў і называлася Руская зямля. Ноўгарадцы — з варажскага роду, а даўней былі славянамі. Праз два гады памерлі Сінявус і Трувар. Пачаў Рурык раздаваць сваім людзям гарады: таму — Полацк, таму — Растоў, а таму — Белавозера. Сядзяць па гарадах прышлыя варагі. А першыя насельнікі ў Ноўгарадзе былі славяне, у Полацку — крывічы, у Растове — меры, у Белавозеры — весь, у Мураме — мурамы. І над усімі ўладарыў Рурык.

## Аскольд і Дзір

Былі ў Рурыка два суродзічы. Не сваякі яго, а баяры. Адпрасіліся яны ў Царграnumerals з родам сваім і пайшлі ўніз па Дняпры. Убачылі, ідучы міма, гарадок на гары, спыталіся:

"Чый гэта гарадок?"

Адказалі ім:

"Былі тры браты — Кій, Шчок і Хaрыў. Пабудавалі яны гарадок і памерлі, а цяпер мы, нашчадкі іхнія, тут сядзім. І плацім даніну хазарам".

Аскольд і Дзір засталіся ў гарадку. Затым сабралі тут шмат варагаў і завалодалі зямлёй палян.

А Рурык княжыў у Ноўгарадзе.

## Склалі браты Кірыл і Мяфодзій славянскую азбуку

Быў адзіны славянскі народ. І данайскія славяне, якіх завявалі вугры (венгры) і маравы, і чэхі, і ляхі, і паляне, што цяпер называюцца руссю, — усе славяне. Менавіта маравам першым і склалі кнігі, названыя славянскай граматай. Такая ж грамата і на Русі, і ў дунайскіх балгар.

Калі славяне ўжо прынялі хрысціянства, іх князі Расціслаў, Святаполк і Кацел паслалі да цара Міхаіла, кажучы яму:

"Зямля наша ахрышчаная, але няма ў нас настаўніка, які б настаўляў і вучыў нас, тлумачыў кнігі святыя. Бо ні грэцкай, ні лацінскай мовы мы не разумеем. Адны нас вучаць так, другія інакш, таму не ведаем, як пішуцца літары, а таксама іх значэнне. Пашліце настаўнікаў нам, каб яны разумелі кніжныя словы і маглі патлумачыць іх".

Пачуўшы гэта, склікаў цар Міхаіл філосафаў і перадаў ім просьбу славянскіх князёў.

Сказалі філосафы:

"Жыве ў Салуні чалавек па імені Леў. Ёсць у яго два сыны, абодва філосафы мудрыя, якія разумеюць славянскую мову".

Паслаў Міхаіл у Салунь да Льва:

"Адпусці да мяне сыноў сваіх — Мяфодзія і Кірыла (браты Кірыл і Мяфодзій, па нацыянальнасці македонскія балгары, заснавальнікі славянскай азбукі, якой з невялікімі зменамі мы карыстаемся і цяпер).

І Леў у хуткім часе іх адпусціў. З'явіліся яны да цара. Кажа ім Міхаіл:

"Прыслала зямля Славянская паслоў да мяне і просіць сабе настаўніка, які б мог патлумачыць кнігі святыя, бо яны таго жадаюць".

І ўгаварыў цар братоў пайсці на Славянскую зямлю да Расціслава, Святаполка і Кацела.

Прыйшлі браты і пачалі складаць славянскую азбуку. Пераклалі Апостал і Евангелле. І радаваліся славяне, слухаючы на сваёй мове пра магутнасць Божую. Потым пераклалі браты іншыя святыя кнігі.

Мяфодзій запрасіў двух папоў-хуткапісцаў і за 6 месяцаў перапісаў з грэчаскай мовы на славянскую ўсе святыя кнігі, пачаўшы ў сакавіку, а скончыўшы 26 кастрычніка.

## Будзе гэта маці гарадоў рускіх

*У год 6387 (879).*

Памёр Рурык і перадаў княжанне родзічу свайму Алегу, пакінуўшы на руках у яго сына Ігара, які быў яшчэ малы.

*У год 6390 (882).*

Пайшоў Алег у паход, узяўшы з сабою варагаў, чудзь, славян, меру, весь, крывічоў, і прыйшоў у Смаленск. Узяў уладу ў горадзе і пасадзіў тут сваіх людзей. Адтуль выправіўся ўніз, узяў Любец і таксама пасадзіў там сваіх людзей. І прыйшоў да гор Кіеўскіх. Даведаўся, што княжаць тут Аскольд і Дзір. Пакінуў адных воінаў на беразе, другіх схаваў у ладдзях, а сам з малым Ігарам на руках пайшоў далей. І паслаў да Аскольда і Дзіра, кажучы ім:

"Мы купцы, ідзём у Грэкі ад Алега і княжыча Ігара. Выходзьце да нас, сваіх родзічаў".

Калі ж Аскольд і Дзір выйшлі, выскачылі з ладдзей схаваныя воіны. І сказаў Алег Аскольду і Дзіру:

"Не князі вы і не княжага роду, а я — княжага роду".

Затым, калі вынеслі малога Ігара, дадаў:

"А ён — Рурыкаў сын!"

І забілі Алегавы воі Аскольда і Дзіра. Занеслі і пахавалі на Вугорскай гары, дзе цяпер знаходзіцца Альмін двор. На той магіле збудавалі Альма царкву святога Мікoлы. А Дзірава магіла за царквою святой Ірыны.

Сеў княжыць Алег у Кіеве і сказаў:

"Будзе гэта маці гарадоў рускіх".

## Пачаў Алег ваяваць

*У год 6391 (883).*

Пачаў Алег ваяваць з драўлянымі і, пакарыўшы іх, браў даніну па чорнай куніцы.

*У год 6392 (884).*

Пайшоў Алег і перамог севяран. А даніну ўзяў лёгкую. І не дазволіў ім плаціць хазарам, кажучы:

"Яны мае ворагі, і вам плаціць ім не трэба".

*У год 6393 (885).*

Паслаў Алег да радзімічаў:

"Каму вы даніну плаціце?"

Яны адказалі:

"Хазарам".

Сказаў ім Алег:

"Не давайце хазарам, а давайце мне".

І ўладарыў Алег над палянамі, драўлянамі, севяранамі і радзімічамі, а з улічамі і ціверцамі ваяваў.

Працяг. Пачатак у №№ 50 (1998 год), 10 (1999 год).



*Ай, ды папрадуха.*

*Фота Мікалая ШТОВА.*

## ХВІЛІНКІ-ВЕСЯЛІНКІ

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ.**

НЯМА ўпыну трохгадоваму Мікітку: то падушку з ложка сцягне ды куляецца на ёй, то на кніжную паліцу ўзбярэцца, то з усяе сілы мыцца на кухню, каб ёгуртам паласавацца.

— Мікітка, не хадзі на галаве! — строга паглядзела на ўнука бабуля Алена.

— Бабуля, ты як скажаш, — пакрыўдзіўся Мікітка. — У мяне ж на галаве вушы, а не ногі.

* * *

ТАТА вядзе Мікітку з дзіцячага садзіка.

— Вазьмі мяне на рукі, — папрасіўся сын.

— Які ты лянівы стаў, Мікітка: не хочаш сваімі ножкамі хадзіць, — сказаў дакорліва тата.

Мікітка прайшоў колькі крокаў моўчкі, а потым кажа тату з тым жа дакорам:

— Сам ты лянівы, татка! Не хочаш сына на рукі ўзяць.

## СКОРАГАВОРКА

**Мікола СІВЕЦ.**



Экскаватар, экскаватар.
Гусеніцы —
Эскалатар.
Ён, як трэба,
Экскаватар
Завязе і на экватар.





# ПА СТАРОНКАХ ВЫДАННЯЎ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

## ПОЛЬШЧА. РАСІЯ. ЗША.

## ЧАКАННЯЎ СІБІРЫ НЕ ПАДМАНУЎ

*Ехаў Алесь Мігас у Сібір (па законнаму размеркаванню, на прэстыжнае месца) пад плач беларускай радні. У вёсцы, што ў Магілёўскай вобласці, яго праводзілі (гэта ж мядзведзям у зубы!), як у апошні раз. Сумна памахаў галінкамі каштан у садзе, і з марамі аб экзатычнасці будучага ў Сібіры жыцця адправіўся свежаспечаны ганчар, ён жа выпускнік Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута, у Краснаярск.*

Цяпер яму трэба было стаць ля пачатку ганчарнага рамяства як выкладчыку нядаўна адкрытага мастацкага інстытута. З сібірскай экзотыкай, што ўзрушала ўяўленні еўрапейца, аказалася, аднак, не зусім так, як прадказвала яму радня. І чумаў на зусім цывілізаваных вуліцах не было відаць, і мядзведзі з грозным рыкам не бегалі. А вось сопкі за Енісеем, якія сінелі лясамі, заклікалі да актыўнага асваення таёжнай прыгажосці. З уласцівымі яму імпульсіўнасцю і аптымізмам Алесь Якубавіч і пачаў працэс асваення выкладчыцкай сцежкі і таёжных наваколляў. Вылазкі за горад, на Стаўбы (скалісты запаведнік каля Краснаярска) былі ў выхадныя, астатні час, а гэта амаль кругласутачна, аддаваўся станаўленню кафедры керамікі. Так што з прыездам Мігаса краснаярскія наваколлі, несумненна, чакала ганчарная вядомасць і слава. І мастацкі пасланец Беларусі не падвёў.

Увогуле Мігасу і яго сатворцам-студэнтам, прыпаяным цікавасцю да ганчаркі, і адступаць не было куды. Ззаду — магутны "генетычны тыл", вытокі рамяства многіх народаў, што апынуліся на енісейскіх берагах.

— Для беларускай керамікі заўсёды была ўласцівая форма сасуда. Паглядзіце, колькі чароўнасці і натуральнасці ў гэтых гаршках, наколькі натуральная чорналашчоная кераміка, як прыгожа дапаўняе яе фляндроўка. Часта крынкі, квасінкі, гаршкі апляталі бяростай, каб не стукаліся і не біліся, калі неслі для бацькі з маткай на пакос гаршочкі з малаком і кашай. Я помню той час, калі амаль увесь посуд у дамах быў гліняны; за стварэнне прыладаў у нас у вёсцы Кузьма-ганчар "адказваў". Гэта потым з'явіліся каструлі алюмініевыя, эмаліраваныя. Помню, у нас на мяжы, на плоце, крынка вісела. З моманту "выкіду" дваццаць сем гадоў прайшло. Узяўся я перад ад'ездам мыць гэтую крынку, пляснуў кіпеню, а ад яе сапраўдны дух свежага малака. Гліна ўсё помніць! Усе яе поры захоўваюць пахі, не выпадкова для ўсяго была свая крынка і свой гаршчок — для капусты, кашы, малака, квасу, ягад... Гліна жывая! І ўспрымае ўсё нутром сваім. Я не ведаю больш цудоўнага матэрыялу, — дзеліцца Алесь Мігас.

А вось бацька яго, сельскі настаўнік, засмучаўся, што сёмае яго дзіця звычайным гаршкам жыццё прысвяціла. Алесь Якубавіч усміхаецца сумна: "Бацька так і не зразумеў, што кераміка — гэта ўсё".

У гэтым "усім" цяжкі шлях. І цярпенне патрэбна вялікае, і вокаалмаз, і "чуццё чуткае", і асаблівая фантазійнасць розуму, і ўяўленне.



І яшчэ вялікая светлая душа. А ўсяго гэтага ў сына Магілёўшчыны ў дастатку. І спрадвечнага беларускага доўгацярпення, і адкрытасці душы, і мастацкай кемлівасці, і таленту.

Краснаярская школа Мігаса цяпер шырока вядомая ў свеце керамістаў. Навучаны і выхаваны ім Краснаярск ганчарны. Многія яго вучні цяпер у мэтрах, у суседніх абласцях пачынаюць рухаць яго ідэі. На многіх міжнародных выставах вырабы Мігаса выклікалі захопленыя водгукі. Да яго едуць вучыцца з многіх краін. А ён дабрадушна смяецца:

— Не ўзяць бульбаша! Я ж тымі крынкамі, што на родным плоце тырчэлі, выхаваны. Гліну і зямлю сваю любіць трэба, каб ствараць што-небудзь сапраўднае, каб здзіўляць свет не мудрагелістымі прыбамбасамі, гэтымі пошлымі "хахарашкамі"...

Ён расказваў аб сваёй далёкай радзіме, аб дзяцінстве, аб землях. Мы смяяліся не адну гадзіну. Калі Мігаса "нясе", калі чарцяня ігрэе ў ім, усе, хто чуе і бачыць яго, адкрываюць раты ў здзіўленні перад талентам артыстычным і душэўным і сядзяць гэтак падоўгу.

— Беларусь мяне выхавала. Святы мой народ, — гаворыць Мігас, і яго позірк смуткуе ад закранутай у душы настальгічнай стрункі.

**Таццяна АЛЕКСЕЕВІЧ.**

г. Краснаярск.



КАЛІ ЛАСКА

Інфармацыйны лісток № 1
Краснаярскай краявой нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусь»

Информационный бюллетень № 1
Красноярской краевой национально-культурной автономии «Беларусь»

## НАША АЛАЧКА

Вестки й Паведамленьні
ньюёрскага аддзелу Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive,
Jamaica, NY 11432
E-mail: mklakotski@worldnet.att.net
10 красавіка 1999 г. № 6 (391)

**Раман КАРДОНСКІ.**

ПРАЦУЮЧЫ ў нашых пасяродках амаль сем гадоў, сустракаў я шмат аддадных працаўнікоў. Але распачаць хачу з асобы, якая асабліва мне запала ў душу ня толькі сваёй шчырасцю й верай у Беларусь, але жаданнем рабіць людзям дабро кожны дзень. Таму першы мой партрэт прысвечаны не Уладыку Мікалаю, які абудзіў ува мне беларуса, не Міколе Ганько, які прыцягнуў мяне да грамадскай працы ў Таронта, і нават не маім сябрам Кастусю Акулу і Анатолю Храноўскаму, а нашай Алачцы. Менавіта так новая эміграцыя кліча спадарыню Алу Орса-Рамана.

Пачуўшы гэта, я быў вельмі ўзрадаваны: значыць, зноў не памыліўся ў ацэнцы чалавека. Убачыўшы першы раз на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Клíўлендзе ў 1996 годзе, я быў захоплены маладосцю яе духу й шчырай радасцю жыцця. Памятаю, як яна выцягнула мяне танцаваць нашу беларускую польку. Нідзе так не раскрываецца душа чалавека, як у песні і танцы...

А потым былі мае пошукі працы ў Нью-Йорку ў лістападзе летась. І зноў на дапамогу мне прыйшла Ала. Менавіта дзякуючы яе парадам і дапамозе, я знайшоў сабе працу, каторую люблю. Вельмі я быў расчулены, калі яна прапанавала мне папрацаваць на Інтэрнеце ўвесь дзень. "Няўжо яна пакіне малазнаёмага чалавека аднаго ў хаце?" — думаў я. Але яна толькі засмяялася, пачуўшы ад мяне гэтае пытанне. І толькі потым даведаўся, што я далёка не першы беларус, якому яна дапамагае. Пасля гэтага мне шмат што стала зразумелым у жыцці ньюйоркскай грамады.

Было яшчэ шмат спатканняў. Але запомнілася зусім нядаўняя сустрэча з сям'ёй малодшага сына Алы. Я быў вельмі здзіўлены і ўзрадаваны, пачуўшы, як чыста і прыгожа Паўлюк размаўляе па-беларуску. Калі хтосьці мне скажа, што гэта не патрыятызм і любоў да Беларусі, маючы мужа-італьянца размаўляць у хаце па-беларуску і навучыць мове дзяцей, дык што тады для вас патрыятызм?..

## КАШУЛЯ І ГАРСЭТ ПАДЛЯШША

### ЯК КНІГІ ЗАСЦЕРАГАЛЬНА-АРНАМЕНТАЛЬНЫХ СІМВАЛАЎ

**Івона МАРЦІНОВІЧ.**



Ніва
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 368714
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
№ 16 (2240) Год XLIV Беласток 18 красавіка 1999 г.

ЗАВАРОЖВАЮЦЬ нас сваёй уладжанасцю, гарманічнасцю, далікатнасцю чырвона-чорныя, чырвона-сіне-чорныя, бела-сінія матывы на каўнярах, лямоўках, манжэтах... Усходняя Польшча — рэгіён, які падараваў нам свайго роду чысціню старажытных традыцый народнага касцюма Падляшша і цэльнасць мастацкага канона. Яго адметнасцямі былі кашуля і гарсэт. Нават такая простая частка жаночага гарнітура, немудрагелістая аснова вопраткі, дазваляла будаваць самастойныя і разнастайныя мастацкія варыянты...

Ці ёсць у нас падставы, каб вылучыць падабенства між падляшскім адзеннем і гарнітурамі жанчын Заходняга Палесся і Панямоння? Так, гэта тэрыторыя этнічна аднолькавая, а ўладаўскі і дамачаўскі касцюмы маюць шмат падабенства, і толькі маленькія акцэнты гавораць аб адрозненнях. Кашуля стала своеасаблівай энцыклапедыяй беларускага народнага арнаменту — старажытнага і заўсёды новага мастацтва...

Нашы прадзеды стварылі багатую міфалогію, якая адлюстроўвае іх светапогляд і можа быць супастаўлена з міфалогіяй старажытных цывілізацый. Напрыклад, Зеўс-Пярун, Афрадыта-Лада, Гефест-Жыжаль. Думаецца, нездарма ў ткацтве мы часта бачым па два сімвалы. Адзін — у выглядзе разеткі ці ромба яўна язычніцкага паходжання, другі — жаночая фігура, звязаная з хрысціянскай іканаграфіяй.

Мы звыкла ацэньваем тканыя рэчы з пазіцыі прыгажосці, адмысловасці арнаментыкі, гармоніі каларыту. Але народнае ткацтва і вышыўка — яшчэ і бяздонная крыніца культурна-гістарычных звестак. Што ні ўзор — то сімвал. Сімвалы ўраджаю: Спарыш, Рай, Багач. Кожны ўзор мае



сваё прызначэнне і сваю назву, напрыклад, "зорачка". Яна пакладзена ў аснову вобраза маці, чалавека, сімвала ўраджаю. Тым не менш ёсць між імі розніца. Аблямоўка пышным вянком з кветак ці пірамідай жытнёвых каласкоў і гэтак далей. Многія майстрыхі ўпэўнены, што тканыя імі вырабы і ўзоры, на іх погляд, вылечваюць людзей. Магчыма і так.

Вышыўка ўстаўкі жаночай кашулі з 1905 года з мясцовасці Кжывовежба раёна Уладавы, на мой погляд, дэманструе найбольш папулярны сімвал ураджаю — Жыцень. Мае ён выгляд разеткі ў выглядзе ромба, ад вуглоў якога адыходзяць па два стылізаваныя жытнія каласы. Нагадвае дажынкавы вянок, які сімвалізаваў паспяховае заканчэнне жніва, да яго і звярталіся па дапамогу ў жыцці.

Сімвал "Ярылы-Юрыя" — гэта фрагмент арнаментальнай паласы рукава кашулі, вышыванай у 1900 годзе жанчынай з вёскі Кжывовежба Уладаўскага раёна. Кашуля была адлюстраваннем амаль кожнай пары года. У славянскіх плямёнаў часоў язычніцтва Ярыла лічыўся Богам урадлівасці і жыццёвых сіл прыроды. З прыняццем хрысціянства яго месца заняў хрысціянскі святы Юрый Пераможца. Чым глыбей ісці ў арнаментыку тканых ці вышываных твораў, вобраз Ярылы мае нейкае асаблівае, усеахопнае значэнне. Гэта ніба вобраз маці для ўсіх людзей. Вобраз Ярылы абуджае ў нашай душы нешта першароднае — тое, што калісьці давала сілу чалавеку, дапамагала яму выстаяць у барацьбе за жыццё.

Прыкладаў арнаментальных палос, якія ўпрыгожваюць часткі жаночага адзення (кашуль) вельмі шмат, і яны расказваюць аб народнай мудрасці вясковых жанчын. Адчуванне сялянкай навакольнага расліннага і жывёльнага свету тонкае і таямнічае.



ВЫСТАВЫ




# СПАДЧЫНА, ЯКУЮ ПАКІНУЎ МАСТАК

Святлана ЯНЧАЛОЎСКАЯ.

**У ЗАЛАХ Новага замка Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея праходзіць выстава твораў цудоўнага беларускага мастака Леаніда Марчанкі (1.04.1941 — 11.09.1996).**

Творчае станаўленне мастака прыйшлося на 70-я гады. Ён атрымаў выдатную прафесійную адукацыю ў Пензенскім мастацкім вучылішчы імя К. Савіцкага і Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні графікі. Яго фарміраванне адбывалася ў творчым акружэнні выдатных мастакоў-педагогаў П. Любамудрава, А. Кашкурэвіча, А. Казлоўскага, Л. Асецкага. Блізкім сябрам і духоўным настаўнікам стаў знакаміты графік Г. Паплаўскі. Яшчэ студэнтам, з 1966 года, Л. Марчанка пачаў удзельнічаць у рэспубліканскіх мастацкіх выставах, а ў 1974-м быў прыняты ў члены Саюза мастакоў СССР.

Мастаку пашчасціла ўбачыць свет — шматлікія творчыя камандзіроўкі ў складзе груп, дзе панавала асаблівая духоўная атмасфера, садзейнічалі рознабаковаму раскрыццю яго таленту.

У 1980 годзе адбылася паездка Л. Марчанкі разам з Г. Паплаўскім у складзе ўсесаюзнай творчай групы на судах і ледаколах на Вялікаму Паўночнаму марскому шляху. Паводле гэтага падарожжа была створана серыя афортаў "Палярны круг", якая вызначаецца выдатным валоданнем графічнымі тэхнікамі, надзвычайнай арыгінальнасцю кампазіцыйных рашэнняў, уменнем праз простыя, нібы фрагментарны пейзажны матыў выказаць не толькі лірычнасць і паэзію навакольнага свету, але і асабістае філасофскае асэнсаванне яго, уласныя светапоглядныя адносіны. Кампазіцыі пабудаваны з дапамогай складаных прасторавых рытмаў, спалучэння вялікіх формаў з выразнымі дэталямі, кантрастных тонавых адносін, што ўвасабляе саму вобразную сутнасць Поўначы.

На надзвычайную вышыню мастацкага абагульнення талент мастака ўзняўся ў цыклах афортаў "Па Туркменіі" і "Аму-Дар'я", створаных паводле творчай паездкі. Яны зачароўваюць гледача манументальнасцю, эпічнасцю і ў той жа час асаблівай музычнасцю рытмаў і форм. Бяскрайнія пяскі і магутныя горныя масівы ўвасабляюць хуткабежнасць часу і вечнасць быцця, касмічныя парадкі і гармонію Сусвету.

Але галоўнае месца ў творчасці Леаніда Марчанкі займае тэма роднай зямлі, яе адвечнай прыгажосці, гарманічнага існавання чалавека на ёй, яго дачынення да лёсу гісторыі і культуры. Сваёй творчасцю мастак пацвердзіў вельмі важную думку аб тым, што панцы нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў культуры не супрацьстаяць, а дапаўняюць і фарміруюць адно адна; толькі зразумеўшы каштоўнасць розных культур, можна па-сапраўднаму зразумець, ацаніць і палюбіць сваю культуру. Паказальна, што выдатную серыю афортаў "Мой край азёрны" мастак стварыў у падмаскоўным Доме творчасці Саюза мастакоў СССР "Сенеж".

Марчанка шмат падарожнічаў па Беларусі, прымаў удзел у творчых паездках па Палессю, Мінскай і Віцебскай абласцях, быў на Гродзеншчыне.

Любоўю і пяшчотай да роднай зямлі, захапленнем яе прыгажосцю і велічнасцю прасякнуты графічныя аркушы серыі "Нарачанскі край". Казачнасць, незвычайнасць і характар простых будзённых рэчаў выказаны ў серыях афортаў "Вёска Манькавічы", "Зямля і людзі", дзе мастак пільна ўглядаецца ў таямнічы свет прыроднага жыцця і прыслухоўваецца, як растуць травы, распускаюцца кветкі, шапацяць вецер, бяжыць вада, імкнецца адкрыць законы прыроднай гармоніі і раўнавагі. У цыкле афортаў "Мая Беларусь" знайшлі ўвасабленне настойлівыя пошукі гармоніі і дасканаласці ў чалавечым свеце, вера ў магутнасць і перамогу светлых асноў жыцця. Яны прасякнуты святлом і паветрам, і гледача агортвае амаль фізічнае адчуванне чысціні паветра і цяпла сонечных промняў. Менавіта такі афорт — светланосны, серабрысты, вытанчаны — стаў адметнасцю творчасці мастака, які ўвайшоў у плеяду лепшых афартыстаў Беларусі.

У апошнія гады жыцця Леанід Марчанка сур'ёзна заняўся акварэльным жывапісам. Яго акварэлі вызначаюцца празрыстым і складаным колерам, тонкай нюанснай мадэліроўкай формы, спалучэннем вялікіх колеравых плям свабоднага пісьма і дакладнай прапрацоўкай дэталяў. Галоўную ўвагу мастак надае пейзажу, дзе дамінуюць восеньскія матывы — ад сумных настальгічных серабрыста-блакітных і вохрыста-карычневых ("Стагі", "Пейзаж з царквой", "Цішыня") да яркіх, эмацыянальных і колеранасычаных ("Пейзаж з возерам", "Возера Варанец", "Бабіна лета"). Мастак дасканала валодаў тэхнікай акварэльнага жывапісу, умела выкарыстоўваў колеравыя эфекты вадзяных фарбаў, ствараючы адчуванне святла і паветра, лёгкасці і празрыстасці ("Перад навальніцай", "Возера Белае").

Яго акварэлі — гэта цудоўны свет вобраза, колеру і настрою, у іх, як і ў афортах, працягваецца тэма роднай зямлі, дачынення чалавека да яе лёсу і будучыні.

Ва ўдзячнасць за супрацоўніцтва ў стварэнні і правядзенні выставы і з надзеяй на далейшыя творчыя кантакты ўдава мастака Ніна Марчанка зрабіла музею падарунак — цудоўную аўталітаграфію Леаніда Марчанкі "Свіцязянскі дуб", у якой сканцэнтравана светаадчуванне і непаўторнасць яго таленту.



# «СЛОВА, У ДУШЫ НАРОДЖАНАЕ, І Ў ПРАХ ЖЫЦЦЁ ЎДЫХАЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 11-й стар.).

атрымаецца не горш! Але і для дарослых вершы прыстойныя, будзем друкаваць. Ведаю, што стаіць у чарзе на прыём у сябры Саюза пісьменнікаў. Але, сам ведаеш, прабіцца туды таксама трэба талент мець..."

Вырашыў яшчэ раз патэлефанаваць у Чэрвень. У слухаўцы пачуўся жаночы голас. Гэта была Генадзева жонка, Ганна Міхайлаўна. Усцешыла, што размаўляла на добрай, натуральнай, жывой беларускай мове. Па адукацыі гісторык, працуе ў краязнаўчым музеі. З Генадзем пабраліся 15 гадоў таму. Жывуць у добрай згодзе, бо характар у мужа мяккі і памяркоўны. Родам ён з Ушаччыны, з вёскі Ліпавец. Сярэднюю школу скончыў ва Ушачах, потым вучыўся на біяфаку БДУ. Служыў у войску. Тады памерла яго мама, і ён вельмі перажываў. Вершы піша даўно. Пачынаў, як і большасць у тыя гады, па-руску, друкаваўся ў часопісе "Парус". Потым перайшоў на родную мову. Адна з першых публікацый была ў "Голасе Радзімы". Нядаўна ў лісце ў рэдакцыю ён пісаў: "Дзякую лёсу, што ў апошнія гады ў мяне склаліся вельмі добрыя адносіны і плённае супрацоўніцтва з газетай "Голас Радзімы", якую я вельмі паважаю і люблю". Менавіта тут, у рэдакцыі, яму параілі паказаць свае п'есы Анатолю Сабалеўскаму, які на той час працаваў галоўным рэдактарам "Тэатральнай Беларусі". Анатоль Вікенцьевіч мне адказаў, што п'есы Генадзя Аўласенкі не толькі друкаваліся ў часопісе, але і здабывалі прызы на рэспубліканскіх конкурсах. Найбольш цікавая — "Вяртанне Равенскага", якую варта было б паставіць у тэатры. Трэба, каб знайшоўся зацікаўлены рэжысёр...

Калі матэрыял быў ужо падрыхтаваны да друку, хтосьці нясмела пастукаў, потым у праёме дзвярэй паказаўся твар з прабачальнай усмешкай — акурат традыцыйны беларускі характар. Першае, чым я ў Генадзя пацікавіўся, было пытанне, ці прачытаў ён нарэшце публікацыю Гілевіча і ці патэлефанаваў аўтару.

— Дык жа неяк няёмка турбаваць... — сцепануў плячыма.

— Якая боязь! Наадварот, будзе рады. Ён добры, душэўны чалавек.

Генадзь засяродзіўся ў сабе, потым папрасіў:

— Калі дазволіце, я спачатку пазваню ў выдавецтва, спытаю, што з маім зборнікам.

Са слухаўкі даносіцца звычны голас Леаніда Дранько-Майсюка, на сённяшні час аднаго з самых вядомых на Беларусі пісьменнікаў, своеасаблівай паэтычнай эстраднай зоркі. Гаварыў без звычайнай віртуознай барочнасці, строга і канкрэтна, як і належыць начальніку на адказнай пасадзе, праз рукі якога праходзіць амаль уся сучасная беларуская проза і паэзія: "Маё стаўленне да вас, шаноўны Генадзь, станоўчае: устаўляю ваш зборнік "Час збіраць камяні" ў план выдання, але ўсё вырашае дырэктар, так што паспрабуйце знайсці сцежку да сэрца паважанага Георгія Васільевіча. Але майце на ўвазе: у нас надзвычай цяжкае фінансавае становішча!.."

Фінансы ў нас, сапраўды, як у той песні: "пяюць рамансы". Менавіта гэтым тлумачыцца тое, што на працягу апошніх гадоў адкладваецца выданне не толькі маладых аўтараў, але і тых, хто ўвасабляе гонар і сумленне нашай літаратуры — Васіля Быкава, таго ж Ніла Гілевіча, які ўжо зняверыўся ўбачыць другі том з запланаванага раней збору твораў. Няма сродкаў... А між тым, здараецца, выходзяць, і не адзін раз на год, шыкоўна "абмундзіраваныя" кнігі куды менш таленавітых і значных аўтараў...

Будзем спадзявацца, што творчы лёс Генадзя Аўласенкі складзецца ўдала. Хацелася б ад вас, шаноўны чытачы, пачуць думку пра "Грунвальдскую баладу".

Напішыце нам, творы каго з беларускіх пісьменнікаў вы жадалі б прачытаць у "Голасе Радзімы".

Карыстаючыся нагодай, запрашаем на нашыя старонкі літаратараў, якія жывуць як на этнічным беларускім сумежжы — на Беласточчыне, Віленшчыне, Латгаліі, Смаленшчыне, так і ў далёкіх ад Беларусі краях. Будзем памятаць, дарагія суродзічы, прачулыя і мудрыя адначасова радкі славутага чэшскага кампазітара Бедржыха Сметаны:

Той народ не загіне,
Якому вяшчун спявае.
Слова, у душы
народжанае,
І ў прах жыццё ўдыхае...

Язген ЛЕЦКА.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# А ДЗЕ ТАЯ ХАТКА, ДЗЕ ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ?

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Над Сербией смилуйся ты,
боже!
Заедают нас волки-янычары!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Долго ль нам терпеть
оплеухи?
Или вы уж не сербы, —
цыганы?
Или вы не мужчины, —
старухи?
Вы бросайте ваши
белые домы,
Уходите в Валийское
ущелье, —
Там гроза готовится
на турок,
Там дружину свою собирает
Старый сербин,
воевода Милош.

Прыведзеныя вышэй радкі — яшчэ адно пацвярджэнне споў: "Пушкін — гэта наша ўсё", ва ўсякім разе, усё самае важнае. Так, я ведаю, што самі "Песні" ўсяго толькі літаратурны жарт, містыфікацыя, але геній таму і адрозніваецца ад іншых літаратараў, што ўсё, да чаго датыкаецца яго залатое лёгкае пяро, набывае статус сапраўднасці. А нацыянальны геній выказвае дух нацыі, яе запаветныя думкі і спадзяванні.

...Ужо трынаццаць гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы. Помню адзін з першых "Чарнобыльскіх шляхаў", Алеся Адамовіча ў жаўтавата-зялёнай куртачцы, які ішоў наперадзе, закладку памятнага каменя. Тады Адамовіч вярнуўся з Германіі, расказваў, як доўга не ўдаецца немцам зжыць пачуццё гістарычнай віны перад ахвярамі канцлераў, аб тым, як дзеці папракаюць бацькоў, тых, хто не тое, каб ваяваў, а проста жыў у час вайны: "А куды вы глядзелі, як гэта было магчыма?" Няўжо тыя, хто ўдзельнічае ў агрэсіі цяпер, не разумеюць, якую пакінуць па сабе памяць? Узрываюцца хімічныя заводы, і ядавіты газ распаўзаецца па зямлі, знішчаючы ўсё жывое і не лічачыся з межамі. А калі будуць бамбіць рэактары? "І раптам над безданню павіслі" — гэта ўжо аўтацытата.

Пісьменнік Уладзімір Набокаў, які нарадзіўся на рубяжы стагоддзя мінулага са стагоддзем цяперашнім, чыё стагоддзе з дня нараджэння таксама прыпадае на сёлетні красавік, сваю кнігу ўспамінаў "Іншыя берагі" пачынае знамянальнай фразай: "Калыска гойдаецца над безданню". Трывога аб тым, як перайсці рубеж стагоддзя, прысутнічала і тады, стагоддзе назад. Калыска — гэта сімвал жыцця як асобнага, асабістага, так і жыцця ўвогуле. Канец свету прадказвалі да канца стагоддзя і тады, сто гадоў назад, і значна раней. У час адной з апошніх гутарак з Алесем Адамовічам мы абмяркоўвалі нядаўна прачытанае апавяданне пісьменніка-фантаста, магчыма, і Рэя Брэдберы, але ў гэтым я не ўпэўнена. У апавяданні тым пісалася, што нехта з дапамогай машыны часу пабываў у XXI стагоддзі і пераканаўся: усе жывыя-здаровыя, чалавецтва добра перайшло злашчасны рубеж. Гэтая ўпэўненасць — што катастрофы не здарылася — дапамагла людзям спакойна, хто ўброд, хто ўплаў, пераадолець ракавы рубеж. А потым спыталіся ў таго вучонага, што ж і як удалося яму ўбачыць і ці супадае рэчаіснасць з убачаным. Вось тады ён і прызнаўся, што ўсё выдумаў, проста хацеў людзей супакоіць... Адамовіч згадзіўся з аўтарам, што гэта трэба было б выдумаць, каб зняць напружанне. Але "Апошняя пастараль", апавесць-папярэджанне, зусім аб іншым! "Калыска гойдаецца над безданню" — але і "мост, раскінуты над безданню, што называецца любоўю" — людзі, якія стаяць на мосце пад бомбамі, трымаюцца за рукі, і гэта мы. Што можам яшчэ процістаўляць звар'яцеламу розуму тэхнакраній, акрамя мужнасці, стойкасці і любові?

Старадаўняе, рыцарскае высакародства — не толькі легенда. Яшчэ ўсё магчыма, усё наперадзе. Гэта наіўнасць, небасцяжаранасць страшнымі прадчуваннямі больш, чым што-небудзь іншае, дапамагае адольваць рубяжы, нават нібы не заўважыўшы іх. Таму нашы надзеі звязаны больш за ўсё з тымі, хто проста жыве, нараджае дзетак, саджае агарод, і калі і заўважае межы, то вось якія: учора яшчэ клён пад акном стаяў з набраклымі пупышкамі, а сёння — лісце, і пабегла па галінках лёгкае зялёнае полымя...

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ "ЗДАРОЎЕ", ЗМЕШЧАНУЮ Ў № № 15—16.

*Па гарызанталі:* **5. Медыцына. 6. Гіпакрат. 8. Сімуляцыя. 11. Орган. 14. Хінін. 15. Гарбата. 16. Сарбіт. 17. Карэта. 21. Параліч. 22. Шчаўе. 23. Вірус. 26. Наркотыкі. 27. Вітаміны. 28. Бюлетэнь.**

*Па вертыкалі:* **1. Бехцераў. 2. Вывіх. 3. Оптык. 4. Бальніца. 7. Пломба. 9. Фармацэўт. 10. Гіпатанія. 12. Санітар. 13. Атрафія. 18. Лячэбнік. 19. Наркоз. 20. Тручэнне. 24. Каліт. 25. Скула.**

СПАРТЫЎНАЯ ФОТАХРОНІКА БелТА



**На чэмпіянаце Еўропы па плаванню ў Англіі майстар спорту міжнароднага класа, выхаванка спортклуба "Гомсельмаш" Алена Попчанка ўстанавіла два новыя рэкорды Рэспублікі Беларусь — на дыстанцыі 50 метраў вольным стылем і на стометроўцы батэрфляем. Такім чынам, у гэтым годзе ў гомельскай спартсменкі ўжо пяць рэкордаў. Алена была таксама ўдзельніцай Алімпійскіх гульняў у Атланце, а цяпер узмоцнена рыхтуецца да другой сваёй Алімпіяды ў Аўстраліі.**

*На здымку: Алена ПОПЧАНКА са сваім трэнерам Сяргеем КУЗІКАВЫМ.*

**У Мінскім палацы тэніса завяршыўся чэмпіянат свету па тэнісу сярод жаночых каманд другой сусветнай групы. За каманду Беларусі выступіла вядомая тэнісістка Наталля ЗВЕРАВА.**





**Паспяхова выступае ў міжнародных турнірах па спартыўнай гімнастыцы вядомы беларускі спартсмен, двухразовы чэмпіён свету Іван ІВАНКОЎ.**

**На Гран-пры, які нядаўна прайшоў у Германіі, і на вельмі прэстыжным гімнастычным турніры ў Парыжы ён стаў пераможцам.**



# КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 3. Умоўны графічны значок, які абазначае гук ці спалучэнне гукаў на пісьме. 6. Назва некаторых навучальных устаноў, пераважна кароткатэрміновых. 7. Установа, якая збірае і выстаўляе для паказу гістарычныя помнікі, творы мастацтва, быту і інш. 8. Умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук; сам гэты гук. 10. Стужка або шнурок для гарэння ў лямпах (з газай), свечках, газніцах. 11. Чалавек, які нічога не разумее ў якой-небудзь галіне ведаў, вытворчасці. 13. Таварыш па працы, вучобе, прафесіі. 17. Матэрыя з шаўковай асновай і залатым або сярэбраным утком. 18. У вясковых будынках памяшканне перад жылым пакоем. 20. Шкляная пасудзіна з вузкім горлам. 22. Спецыяльны бляшаны значок на форменнай шапцы. 25. Адсутнасць згоды, зладжанасці. 26. Адгалінаванне ствала дрэва, тоўсты сук. 28. Настаяцель каталіцкага мужчынскага манастыра.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Мнагалюдны сход для абмеркавання якіх-небудзь важных надзённых пытанняў. 2. Першаснасць, найважнейшае значэнне. 4. Тонкія сухія, звычайна доўгія сасновыя шчэпкі, якімі, запальваючы, асвятлялі даўней хаты. 5. Апазнавальны знак на чым-небудзь. 9. Пачціві адносіны. 12. Адзенне свяшчэнніка пры набажэнстве. 14. Вяроўкі або рамяні для кіравання запрэжаным канём. 15. Шалік на шыю. 16. Прыстасаванне для лоўлі мышэй. 19. Багаты селянін-уласнік. 21. Член верхняй палаты англійскага парламента. 23. Усталяваны парадак. 24. Літаратурна-мастацкі апавядальны твор, звычайна празаічны, са складаным сюжэтам. 26. Верхняе доўгае адзенне праваслаўнага духавенства. 27. Цвёрды мінерал са слаямі роўнай афарбоўкі (выкарыстоўваецца для ўпрыгажэнняў і дробных вырабаў).**

**Склала Ірына БЕКІШ.**

Шчучынскі раён,
м. Каменка.

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 803.
Падпісана да друку 3.05.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82